Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Беларуская мова і літаратура

# 10–11 *класы*

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

**2012 / 2013**

*навучальны год*

Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Беларуская мова і літаратура

# 10-11 класы

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

Дапаможнік для настаўнікаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі

*Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

Мінск
Нацыянальны інстытут адукацыі
«АВЕРСЭВ»
2012

УДК 373.5.016:811.161.3+821.161.3.09
ББК 74.268.0(4Беи)
Б43

*Серыя заснавана ў 2006 годзе*

**Аўтары:**
В. У. Зелянко, С. С. Міхнёнак, Н. У. Целяпун, І. У. Булаўкіна

Б43 **Беларуская** мова і літаратура. 10—11 кл. : прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне : дапам. для настаўнікаў устаноў агул. сярэд. адукацыі / В. У. Зелянко [і інш.]. — Мінск: НІА : Аверсэв, 2012. — 94 с. — (Бібліятэка настаўніка).

ISBN 978-985-559-105-5 (НІА)
ISBN 978-985-19-0157-5 (АВЕРСЭВ)

**УДК 373.5.016:811.161.3+821.161.3.09**
**ББК 74.268.0(4Беи)**

*Вучэбнае выданне*
БІБЛІЯТЭКА НАСТАЎНІКА

**Зелянко** Вольга Уладзіміраўна
**Міхнёнак** Святлана Сямёнаўна
**Целяпун** Наталля Уладзіміраўна
**Булаўкіна** Ірына Уладзіміраўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА**
**10—11 класы**
**Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне**
Дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
Адказны за выпуск *Д. Л. Дэмбоўскі*

Падпісана ў друк 17.05.2012. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера друкарская.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 3,63. Тыраж 3100 экз. Заказ 4131.

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009.
Вул. Караля, 16, 220004, Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Аверсэв».
ЛИ № 02330/0003944 ад 03.02.2009. Вул. М. Олешава, 1, офіс 309, 220090, Мінск.
**E-mail: info@aversev.by; www.aversev.by**
Кантактныя тэлефоны: (017) 268-09-79, 268-08-78.
Для пісьмаў: а/с 3, 220090, Мінск.

УПП «Віцебская абласная друкарня».
ЛП № 02330/0494165 ад 03.04.2009.
Вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4, 210015, Віцебск.

**ISBN 978-985-559-105-5 (НІА)**
**ISBN 978-985-19-0157-5 (АВЕРСЭВ)**

# Прадмова

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне распрацавана ў адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі па беларускай мове і літаратуры для 10—11-х класаў, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у 2012 г. У ім рэалізуюцца патрабаванні адукацыйнага стандарту па прадмеце, вызначаецца паслядоўнасць урокаў, у тым ліку кантрольных урокаў, урокаў развіцця маўлення, урокаў, прысвечаных творчым работам.

У аснову планавання ўрокаў беларускай мовы пакладзены сістэмна-функцыянальны, камунікатыўна-дзейнасны і лінгвакультуралагічны падыходы, а таксама прынцып сістэматычнага паўтарэння і паглыблення ведаў вучняў, які прадугледжвае зварот да пройдзенага ў папярэдніх класах.

Планаванне па беларускай літаратуры змяшчае асноўныя пытанні, якія будуць садзейнічаць рэалізацыі пастаўленых мэт і задач, указвае метадычныя дапаможнікі, неабходныя для падрыхтоўкі да ўрокаў, прапануе адзін з варыянтаў дамашняга задання.

Выданне мае на мэце дапамагчы настаўніку ў наладжванні вучэбнага працэсу, але не павінна стрымліваць яго ініцыятывы і творчага падыходу да выкладання прадмета. Настаўнік можа размеркаваць вучэбны матэрыял па-іншаму, улічваючы асаблівасці кожнага класа.

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне падрыхтавалі:
Беларуская мова. 10 клас — В. У. Зелянко;
Беларуская мова. 11 клас — С. С. Міхнёнак;
Беларуская літаратура. 10 клас — Н. У. Целяпун;
Беларуская літаратура. 11 клас — І. У. Булаўкіна.

# Беларуская мова
## 10 клас

(53 гадзіны на год, 1/2 гадзіны на тыдзень, з іх 9 гадзін — на пісьмовыя работы)

Размеркаванне вучэбнага матэрыялу прыводзіцца ў адпаведнасці са зместам і структурай вучэбнага дапаможніка: Беларуская мова : вучэб. дапам. для 10-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка [і інш.]. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. – 256 с.

| Нумар урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэты і задачы ўрока | Матэрыял вучэбнага дапаможніка, дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **I чвэрць (8 урокаў)** | | | |
| **Роля роднай мовы ў жыцці чалавека і грамадства (1 гадзіна)** | | | |
| 1 | Роля роднай мовы ў жыцці чалавека і грамадства | Паглыбіць веды вучняў пра ролю роднай мовы ў жыцці чалавека і грамадства. Сфарміраваць уяўленне пра грамадскую сутнасць мовы (мова – сродак зносін), моўныя патрэбы асобы і грамадства, ролю роднай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры. Удасканальваць уменні адэкватна ўспрымаць вуснае і пісьмовае маўленне, весці дыялог у сітуацыі афіцыйных маўленчых зносін | § 1, практ. 1, 2; запіс пад дыктоўку выказванняў дзеячаў беларускай культуры пра ролю мовы ў жыцці чалавека і грамадства (з гэтай мэтай рэкамендуецца выкарыстаць кнігу А. А. Каўруса «Слова наша роднае», 1986); дэкламацыя вершаў пра родную мову; дыспут на тэму «Якую мову называюць роднай?» (на аснове артыкула А. Я. Міхневіча «Родная мова» з энцыклапедыі «Беларуская мова», 1994, с. 458)<br>**Д/з**: пісьмовае выказванне на тэму «*Вобразная, вольная, пявучая мова беларуская мая!*» (П. Панчанка) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Маўленне (14 гадзін, з іх 3 гадзіны — на пісьмовыя работы)** | | | |
| 2 | Маўленне як працэс маўленчых зносін. Умовы маўленчых зносін | Сфарміраваць уяўленне пра маўленне як працэс маўленчых зносін, узаемасувязь мовы і маўлення. Узнавіць і сістэматызаваць веды пра ўмовы маўленчых зносін. Выпрацоўваць уменне даваць характарыстыку маўленчай сітуацыі | § 2, практ. 3—5, 6 (I, III), 8<br>**Д/з:** § 2, практ. 6 (II) |
| 3 | Вуснае і пісьмовае маўленне | Паглыбіць веды пра спецыфіку вуснага і пісьмовага маўлення. Замацаваць уменне размяжоўваць вуснае і пісьмовае маўленне. Удасканальваць здольнасць адэкватна ўспрымаць вуснае і пісьмовае маўленне, ствараць уласныя вусныя і пісьмовыя выказванні | § 3, практ. 9—13<br>**Д/з:** § 3, практ. 14 |
| 4 | Віды маўленчай дзейнасці, іх роля ў фарміраванні асобы | Пашырыць веды пра віды маўленчай дзейнасці (слуханне, чытанне, гаварэнне, пісьмо), іх ролю ў фарміраванні асобы. Удасканальваць уменні складаць план тэксту, вусна пераказваць тэкст, перакладаць тэкст з рускай мовы на беларускую | § 4, практ. 15—20<br>**Д/з:** § 4, практ. 21 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 5 | Дыялагічнае і маналагічнае маўленне | Паглыбіць веды пра спецыфіку дыялагічнага і маналагічнага маўлення. Замацаваць уменне размяжоўваць дыялагічнае і маналагічнае маўленне. Удасканальваць навык выразнага чытання дыялогаў і маналогаў | § 5, практ. 23—25, 26 (II, III), 27<br>**Д/з**: § 5, практ. 26 (I), с. 21 (вусна адказаць на кантрольныя пытанні, выканаць кантрольныя заданні) |
| 6 | Тэкст як адзінка мовы і маўлення. Сэнсавая цэласнасць і тэматычнае адзінства тэксту. Разгорнутасць тэксту | Пашырыць веды пра тэкст як адзінку мовы і маўлення, сэнсавую цэласнасць і тэматычнае адзінства тэксту, разгорнутасць як прымету тэксту. Удасканальваць уменні вызначаць тэму і асноўную думку тэксту, даваць загаловак, дзяліць тэкст на часткі (падтэмы і мікратэмы) і абзацы, выдзяляць апорныя (ключавыя) словы, словазлучэнні і сказы | § 6, практ. 29—32; § 7, практ. 33, 34<br>**Д/з**: § 6, 7, практ. 35 |
| 7 | **Пісьмовая творчая работа** | Удасканальваць уменне ствараць пісьмовае выказванне на прапанаваную тэму: адбіраць неабходныя факты для раскрыцця аўтарскай задумы; падпарадкоўваць кампазіцыю тэксту адпаведнаму тыпу маўлення; працаваць над моўным афармленнем выказвання | Магчыма выкананне творчай работы на аснове практ. 39 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 8 | Паслядоўнасць тэксту | Сістэматызаваць веды пра паслядоўнасць як прымету тэксту, кампазіцыйную структуру тэкстаў розных тыпаў маўлення. Замацаваць уменні абгрунтоўваць падзел тэксту на абзацы, аналізаваць тэксты розных тыпаў маўлення, складаць іх схемы | § 8, практ. 36—38, 41, 42 |
| **II чвэрць (8 урокаў)** | | | |
| 9 | Звязнасць, завершанасць тэксту | Сістэматызаваць веды пра звязнасць і завершанасць як прыметы тэксту. Узнавіць веды пра віды і моўныя сродкі сувязі сказаў у тэксце. Замацаваць уменні вызначаць спосабы і сродкі сувязі сказаў і частак у тэксце, выяўляць прыметы тэксту | § 9, практ. 43, 44, 46; § 10, практ. 48, 49<br>**Д/з**: § 9, 10, практ. 45, с. 40 (вусна адказаць на кантрольныя пытанні, выканаць кантрольныя заданні) |
| 10 | Стылі маўлення. Навуковы стыль маўлення: сфера выкарыстання, мэта выказвання, стылявыя рысы, характэрныя моўныя сродкі, жанравыя разнавіднасці | Пашырыць веды пра спецыфіку навуковага стылю маўлення. Развіваць уменні абгрунтоўваць прыналежнасць тэкстаў да навуковага стылю, выяўляць асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў, удасканальваць тэксты навуковага стылю. Выпрацоўваць здольнасць пераказваць навуковыя тэксты, ствараць уласныя тэксты навуковага стылю | С. 41, 42 (вывучальнае чытанне), § 11, знаёмства з планам стылістычнага аналізу тэксту (с. 44), практ. 50, 52, 53, 55, 56<br>**Д/з**: § 11, практ. 58 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 11 | Афіцыйны стыль маўлення: сфера выкарыстання, мэта выказвання, стылявыя рысы, характэрныя моўныя сродкі, жанравыя разнавіднасці | Паглыбіць веды пра спецыфіку афіцыйнага стылю маўлення. Развіваць уменні абгрунтоўваць прыналежнасць тэкстаў да афіцыйнага стылю, выяўляць асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў. Выпрацоўваць здольнасць ствараць уласныя тэксты афіцыйнага стылю розных жанраў | § 12, практ. 59, 61—64, 67<br>**Д/з:** § 12, практ. 66, 70 |
| 12 | Публіцыстычны стыль маўлення: сфера выкарыстання, мэта выказвання, стылявыя рысы, характэрныя моўныя сродкі, жанравыя разнавіднасці | Сістэматызаваць веды пра спецыфіку публіцыстычнага стылю маўлення. Развіваць уменні абгрунтоўваць прыналежнасць тэкстаў да публіцыстычнага стылю, выяўляць асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў. Выпрацоўваць здольнасць ствараць уласныя тэксты публіцыстычнага стылю розных жанраў | § 13, практ. 71—74, 77, 78<br>**Д/з:** § 13, практ. 75, 79 (на выбар) |
| 13 | Мастацкі, гутарковы стылі маўлення: сфера выкарыстання, мэта выказвання, стылявыя рысы, характэрныя моўныя сродкі, жанравыя разнавіднасці | Пашырыць веды пра спецыфіку мастацкага і гутарковага стыляў маўлення, асаблівасці празаічнага і паэтычнага маўлення. Развіваць уменні абгрунтоўваць прыналежнасць тэкстаў да мастацкага і гутарковага стыляў, выяўляць асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў. Выпрацоўваць здольнасць ствараць уласныя тэксты розных стыляў і жанраў | § 14, практ. 82, 83, 85, 90; § 15, практ. 93, 95<br>**Д/з:** § 14, 15, практ. 88, 89 (на выбар), 97 (па варыянтах) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 14<br>15 | **Кантрольны падрабязны пераказ тэксту** | Удасканальваць уменне падрабязна пераказваць тэкст з захаваннем яго жанрава-стылістычных і моўных асаблівасцей: раскрываць тэму і асноўную думку тэксту; паслядоўна перадаваць падзеі, логіку і кампазіцыю тэксту-арыгінала; выкарыстоўваць моўныя сродкі ў адпаведнасці з камунікатыўнай задачай | **Д/з**: с. 79 (вусна адказаць на кантрольныя пытанні, выканаць кантрольныя заданні) |
| 16 | Рэзервовая гадзіна | | |
| **III чвэрць (21 урок)** | | | |
| **Слова ў тэксце (19 гадзін, з іх 3 гадзіны – на пісьмовыя работы)** | | | |
| 17<br>18 | Гукавая абалонка слова | Узнавіць і падагульніць веды пра фанетычную сістэму беларускай мовы, класіфікацыю гукаў. Замацаваць і паглыбіць веды аб правілах вымаўлення спалучэнняў зычных гукаў, пазіцыйных і гістарычных чаргаваннях гукаў. Удасканальваць навык фанетычнага разбору слоў. Выпрацоўваць здольнасць выяўляць у сваім і чужым маўленні адхіленні ад арфаэпічных норм | § 16, практ. 98, 100, 101, 103–106; фанетычны разбор слоў (парадак і ўзор змешчаны на с. 248)<br>§ 16, практ. 108, 109, 111–113, 116, 117; фанетычны разбор слоў<br>**Д/з**: § 16, практ. 107, 118 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 19 | Стылістычныя магчымасці фанетыкі | Сфарміраваць уяўленне пра сэнсава-стылістычныя магчымасці асанансу і алітэрацыі, сувязь паміж гучаннем і лексічным значэннем некаторых слоў. Выпрацоўваць уменні вызначаць сэнсава-стылістычную ролю фанетычных сродкаў у мастацкіх тэкстах, карыстацца стылістычнымі магчымасцямі фанетыкі | § 17, практ. 119–125<br>**Д/з**: § 17, практ. 126 |
| 20<br>21 | Лексічнае значэнне слова | Узнавіць і паглыбіць веды пра лексічнае значэнне слова, адназначнасць і мнагазначнасць слоў, аманімію. Сфарміраваць уяўленне пра спосабы ўзнікнення новых значэнняў слоў, тыпы амонімаў. Выпрацоўваць уменні карыстацца рознымі прыёмамі пры тлумачэнні лексічных значэнняў слоў, адрозніваць мнагазначныя словы ад амонімаў, вызначаць тып аманіміі. Фарміраваць патрэбнасць і ўменне карыстацца тлумачальнымі слоўнікамі | § 18, практ. 127, 129–134<br>§ 18, практ. 137–142<br>**Д/з**: § 18, практ. 135, 136, 143 |
| 22 | Стылістычныя магчымасці лексікі і фразеалогіі | Сфарміраваць уяўленне пра стылістычныя магчымасці лексікі і фразеалогіі. Замацоўваць уменні знаходзіць у сказах і тэкстах сінонімы, антонімы, фразеалагізмы, тропы, вызначаць іх сэнсава-стылістычную ролю, карыстацца стылістычнымі магчымасцямі лексікі і фразеалогіі | § 19, практ. 144–147, 149, 150, 153<br>**Д/з**: § 19, практ. 151, 152 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 23 | Марфемная будова слова, утварэнне слоў | Сістэматызаваць і паглыбіць веды пра марфемную будову слова, ролю марфем у слове. Узнавіць веды пра асноўныя спосабы словаўтварэння. Фарміраваць уменне тлумачыць значэнне марфем у словах. Удасканальваць навыкі марфемнага і словаўтваральнага разбору слоў | § 20, практ. 154—157, 160, 161; разбор слоў па саставе, словаўтваральны разбор (парадак і ўзоры змешчаны на с. 248, 249)<br>**Д/з**: § 20, практ. 162 |
| 24 | Стылістычныя магчымасці словаўтварэння | Сфарміраваць уяўленне пра стылістычныя магчымасці словаўтварэння. Сістэматызаваць веды пра формаўтваральныя і словаўтваральныя марфемы. Выпрацоўваць уменні вызначаць ролю словаўтваральных сродкаў у тэксце, карыстацца стылістычнымі магчымасцямі словаўтварэння | § 21, практ. 163—166, 168<br>**Д/з**: § 21, практ. 169 |
| 25 | **Кантрольны дыктант** | Выявіць узровень сфарміраванасці арфаграфічных і пунктуацыйных уменняў і навыкаў | |
| 26 | Назоўнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічная роля | Узнавіць і паглыбіць веды пра назоўнік як часціну мовы, лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў, назоўнікі, якія маюць форму толькі адзіночнага ці толькі множнага ліку. Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах назоўнікі, даваць ім лексіка-граматычную характарыстыку, вызначаць род іншамоўных нескланяльных назоўнікаў, абрэвіятур, рабіць марфалагічны разбор назоўнікаў | § 22, практ. 170—176; марфалагічны разбор назоўнікаў (парадак і ўзор змешчаны на с. 249)<br>**Д/з**: § 22, практ. 177 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 27 | Прыметнік, прыслоўе: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічная роля | Падагульніць і сістэматызаваць веды аб прыметніку і прыслоўі як часцінах мовы, разрадах прыметнікаў і прыслоўяў, ступенях параўнання прыметнікаў і прыслоўяў. Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах прыметнікі і прыслоўі, утвараць ад дадзеных прыметнікаў і прыслоўяў формы ступеней параўнання і правільна ўжываць іх у маўленні, рабіць марфалагічны разбор прыметнікаў і прыслоўяў | § 23, практ. 178—180; § 24, практ. 182—184; марфалагічны разбор прыметнікаў і прыслоўяў (парадак і ўзоры змешчаны на с. 249, 251)<br>**Д/з:** § 23, 24, практ. 181, 185 (на выбар) |
| 28 | Лічэбнік, займеннік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічная роля | Сістэматызаваць веды пра лічэбнік і займеннік як часціны мовы, разрады лічэбнікаў і займеннікаў. Фарміраваць уменні знаходзіць у тэкстах лічэбнікі і займеннікі, правільна ўжываць у маўленні колькасна-іменныя спалучэнні, склонавыя формы займеннікаў, рабіць марфалагічны разбор лічэбнікаў і займеннікаў | § 25, практ. 186, 187, 189; § 26, практ. 190, 191, 193; марфалагічны разбор лічэбнікаў і займеннікаў (парадак і ўзоры змешчаны на с. 250)<br>**Д/з:** § 25, 26, практ. 188 (1), 192 (на выбар) |
| 29 | Дзеяслоў: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічная роля | Падагульніць веды пра дзеяслоў як часціну мовы, формы дзеяслова. Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах асабовыя і асобыя формы дзеяслова, утвараць ад дадзеных дзеясловаў патрэбныя формы, правільна ўжываць іх у маўленні, рабіць марфалагічны разбор дзеясловаў | § 27, практ. 194—196, 198, 199, 201; марфалагічны разбор дзеясловаў (парадак і ўзор змешчаны на с. 250)<br>**Д/з:** § 27, практ. 202 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 30 | Дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічная роля | Сістэматызаваць і паглыбіць веды пра дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе як асобыя формы дзеяслова, іх граматычныя прыметы, правілы выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў. Развіваць уменні знаходзіць у тэкстах дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, утвараць і ўжываць у маўленні ўласцівыя беларускай мове дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі; карыстаючыся рознымі прыёмамі, перакладаць з рускай мовы на беларускую тэксты з нехарактэрнымі для беларускай мовы формамі дзеепрыметнікаў. Удасканальваць навык марфалагічнага разбору дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў | § 28, практ. 203—208; марфалагічны разбор дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў (парадак і ўзоры змешчаны на с. 251)<br>**Д/з:** § 28, практ. 209 |
| 31 | Прыназоўнік, злучнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля | Падагульніць і сістэматызаваць веды аб прыназоўніку і злучніку як часцінах мовы, іх разрадах. Развіваць уменні знаходзіць у тэкстах прыназоўнікі і злучнікі, адрозніваць вытворныя прыназоўнікі ад слоў самастойных часцін мовы, падпарадкавальныя злучнікі ад злучальных слоў, рабіць марфалагічны разбор прыназоўнікаў і злучнікаў | § 29, практ. 210, 211, 213; марфалагічны разбор прыназоўнікаў і злучнікаў (парадак і ўзоры змешчаны на с. 252)<br>**Д/з:** § 29, практ. 212 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 32 | Часціца, выклічнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля | Узнавіць і пашырыць веды пра часціцы і выклічнік як часціны мовы, іх ролю ў арганізацыі маўлення. Замацаваць уменні знаходзіць у тэкстах часціцы і выклічнікі, адрозніваць значэнне і ўжыванне часціц ***не*** і ***ні***, правільна пісаць ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы, рабіць марфалагічны разбор часціц | § 30, практ. 214—220; марфалагічны разбор часціц (парадак і ўзор змешчаны на с. 252)<br>**Д/з:** § 30, практ. 221 |
| 33<br>34 | **Кантрольны падрабязны пераказ тэксту** | Удасканальваць уменне падрабязна пераказваць тэкст з захаваннем яго жанрава-стылістычных і моўных асаблівасцей: раскрываць тэму і асноўную думку тэксту; паслядоўна перадаваць падзеі, логіку і кампазіцыю тэксту-арыгінала; выкарыстоўваць моўныя сродкі ў адпаведнасці з камунікатыўнай задачай | |
| 35 | Сэнсава-стылістычная роля і тэкстаўтваральныя магчымасці слоў і іх формаў | Сфарміраваць уяўленне пра ролю розных часцін мовы ў арганізацыі маўлення, разгортванні і стварэнні тэкстаў розных тыпаў, стыляў і жанраў. Развіваць уменні вызначаць сэнсава-стылістычную ролю і тэкстаўтваральныя магчымасці слоў розных часцін мовы, ствараць самастойныя тэксты з улікам сэнсава- | § 31, практ. 222, 223, 225, 227, 229<br>**Д/з:** практ. 226, с. 164 (вусна адказаць на кантрольныя пытанні, выканаць кантрольныя заданні) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | стылістычнай ролі і тэкстаўтваральных магчымасцей слоў розных часцін мовы. Замацаваць навык марфалагічнага разбору слоў розных часцін мовы | |
| **Словазлучэнне і сказ у тэксце (15 гадзін, з іх 3 гадзіны — на пісьмовыя работы)** | | | |
| 36 | Словазлучэнне; віды, спосабы і сродкі сінтаксічнай сувязі ў словазлучэнні | Узнавіць і падагульніць веды пра словазлучэнне, яго будову, віды, спосабы і сродкі сінтаксічнай сувязі ў словазлучэнні, спецыфіку кіравання ў беларускай мове ў параўнанні з рускай. Удасканальваць уменні вызначаць віды, спосабы і сродкі сінтаксічнай сувязі ў словазлучэннях; правільна ўжываць у маўленні словазлучэнні, будова якіх адлюстроўвае спецыфіку кіравання ў беларускай мове; навык сінтаксічнага разбору словазлучэнняў | § 32, практ. 230–233<br>**Д/з**: § 32, практ. 234 |
| 37 | **Пісьмовая творчая работа** | Удасканальваць уменне ствараць пісьмовае выказванне на прапанаваную тэму: адбіраць неабходныя факты для раскрыцця аўтарскай задумы; падпарадкоўваць кампазіцыю тэксту адпаведнаму тыпу маўлення; працаваць над моўным афармленнем выказвання | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 38 | Сэнсава-стылістычная роля і тэкстаўтваральныя магчымасці словазлучэнняў у разгортванні тэмы, афармленні звязнага выказвання. Сінаніміка словазлучэнняў, яе роля ў стварэнні тэкстаў рознай жанрава-стылістычнай прыналежнасці | Удакладніць і пашырыць веды пра сэнсава-стылістычную ролю і тэкстаўтваральныя магчымасці словазлучэнняў у разгортванні тэмы, афармленні звязнага выказвання, сінаніміку словазлучэнняў. Развіваць уменні вызначаць сэнсава-стылістычную ролю словазлучэнняў, падбіраць да дадзеных словазлучэнняў сінанімічныя. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору словазлучэнняў | § 32, практ. 235–237, 240, 241 |
| **IV чвэрць (16 урокаў)** | | | |
| 39 | Сутнасць сказа як цэласнай сінтаксічнай адзінкі. Асноўныя функцыі сказа | Узнавіць і сістэматызаваць веды пра сказ як цэласную сінтаксічную адзінку, асноўныя функцыі і прыметы сказа. Замацаваць уменне вызначаць тыпы простых сказаў. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору простых сказаў | § 33, практ. 242, 243, 244 (I)<br>**Д/з:** § 33, практ. 244 (II) |
| 40 | Сінтаксічныя прыметы двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, няпоўных сказаў | Удакладніць і пашырыць веды пра сінтаксічныя прыметы двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, няпоўных сказаў. Замацаваць уменні размяжоўваць тыпы выказнікаў, дзейнік і выказнік, выражаныя назоўнікамі ў назоўным склоне. Фарміраваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы | § 34, практ. 245–249, 251, 253<br>**Д/з:** § 34, практ. 250, 252 (на выбар) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | і асаблівасці будовы двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, няпоўных сказаў, адрозніваць віды аднасастаўных сказаў. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, няпоўных сказаў | |
| 41 | Сінтаксічныя прыметы сказаў з аднароднымі членамі, знакі прыпынку | Сістэматызаваць і паглыбіць веды пра сінтаксічныя прыметы сказаў з аднароднымі членамі, пунктуацыйныя нормы пры пісьмовым афармленні сказаў з аднароднымі членамі і абагульняльнымі словамі пры аднародных членах сказа. Замацаваць уменне адрозніваць аднародныя азначэнні ад неаднародных. Развіваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы сказаў з аднароднымі членамі, правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў іх. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору сказаў з аднароднымі членамі | § 35, практ. 254–256<br>**Д/з**: § 35, практ. 257 |
| 42 | Сінтаксічныя прыметы сказаў з адасобленымі членамі, знакі прыпынку | Узнавіць і паглыбіць веды пра ўмовы адасаблення, сінтаксічныя прыметы сказаў з адасобленымі членамі, пунктуацыйныя нормы пры іх пісьмовым афармленні. Выпрацоўваць уменні | § 36, практ. 258–261<br>**Д/з**: § 36, практ. 262 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| | | вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы сказаў з адасобленымі членамі, правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў іх. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору сказаў з адасобленымі членамі | |
| 43 | Сінтаксічныя прыметы сказаў са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, знакі прыпынку | Падагульніць і сістэматызаваць веды пра сінтаксічныя прыметы сказаў са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, пунктуацыйныя нормы пры іх пісьмовым афармленні. Выпрацоўваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы сказаў са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі; адрозніваць звароткі, пабочныя і ўстаўныя канструкцыі ад членаў сказа; правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў сказах са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору сказаў са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі | § 37, практ. 263, 264, 266; § 38, практ. 267, 268; запіс пад дыктоўку сказаў з устаўнымі канструкцыямі, вызначэнне асаблівасцей іх будовы, тлумачэнне знакаў прыпынку; дапаўненне сказаў устаўнымі канструкцыямі (*Суседка параіла бабулі папіць настою з рамонку. — Суседка —* ***яна працуе ўрачом у паліклініцы*** *— параіла бабулі папіць настою з рамонку*); размежаванне сказаў з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, графічны разбор па членах сказа.<br>*Дадатковы матэрыял па тэме «Сінтаксічныя прыметы сказаў з устаўнымі канструкцыямі, знакі прыпынку» змешчаны на сайце Нацыянальнага інстытута адукацыі www.adu.by (раздзел «Вучэбныя прадметы» / «Беларуская мова і літаратура»)*<br>**Д/з:** § 37, 38, практ. 269 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 44 | Сінтаксічныя прыметы складаназлучаных сказаў, знакі прыпынку | Удакладніць і паглыбіць веды пра складаныя сказы, іх віды, сінтаксічныя прыметы складаназлучаных сказаў, сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназлучаных сказаў, пунктуацыйныя нормы пры пісьмовым афармленні складаназлучаных сказаў. Фарміраваць уменні адрозніваць складаны сказ ад простага, будаваць графічныя схемы складаных сказаў, вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы складаназлучаных сказаў, правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў іх. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору складаназлучаных сказаў | § 39, практ. 271, 272, 274; § 40, практ. 275–277<br>**Д/з:** § 39, 40, практ. 278 |
| 45 | Сінтаксічныя прыметы складаназалежных сказаў, знакі прыпынку | Узнавіць і сістэматызаваць веды пра сінтаксічныя прыметы складаназалежных сказаў, віды даданых частак у складаназалежных сказах, віды падпарадкавання даданых частак галоўнай у складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі, пунктуацыйныя нормы пры пісьмовым афармленні складаназалежных сказаў. Выпрацоўваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы складаназалежных сказаў; карыстацца рознымі | § 41, практ. 280, 283, 284, 285 (па варыянтах), 286, 287; § 42, практ. 289 (па варыянтах)<br>**Д/з:** § 41, 42, практ. 288, 291 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | прыёмамі размежавання падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў; вызначаць віды даданых частак; адрозніваць сузалежнае і паслядоўнае падпарадкаванне даданых частак, аднародныя і неаднародныя даданыя часткі; правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў складаназалежных сказах. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору складаназалежных сказаў, уменне будаваць іх схемы | |
| 46 | Сінтаксічныя прыметы бяззлучнікавых складаных сказаў, знакі прыпынку | Сістэматызаваць і паглыбіць веды пра сінтаксічныя прыметы бяззлучнікавых складаных сказаў, пунктуацыйныя нормы пры іх пісьмовым афармленні. Выпрацоўваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы бяззлучнікавых сказаў, перабудоўваць складаназлучаныя і складаназалежныя сказы ў бяззлучнікавыя, правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў бяззлучнікавых сказах. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору бяззлучнікавых сказаў | Практ. 292–294<br>**Д/з**: практ. 295 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 47 | Сінтаксічныя прыметы сказаў з рознымі відамі сувязі, знакі прыпынку | Падагульніць веды пра сінтаксічныя прыметы сказаў з рознымі відамі сувязі, пунктуацыйныя нормы пры іх пісьмовым афармленні. Выпрацоўваць уменні вызначаць сінтаксічныя прыметы і асаблівасці будовы сказаў з рознымі відамі сувязі, складаць сказы з рознымі відамі сувязі частак па прапанаваных схемах, правільна ставіць і тлумачыць знакі прыпынку ў сказах з рознымі відамі сувязі частак. Удасканальваць навык сінтаксічнага разбору сказаў з рознымі відамі сувязі, уменне будаваць іх схемы | Практ. 296, 304; запіс тэксту пад дыктоўку, знаходжанне ў ім складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак, іх сінтаксічны разбор<br>**Д/з**: выпісаць з твораў мастацкай літаратуры 5 складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак, пабудаваць іх схемы |
| 48 | **Кантрольны дыктант** | Выявіць узровень сфарміраванасці арфаграфічных і пунктуацыйных уменняў і навыкаў | |
| 49 | Сэнсава-стылістычная роля і тэкстаўтваральныя магчымасці простых і складаных сказаў рознай будовы і прызначэння. Сінтаксічная сінаніміка | Удакладніць і пашырыць веды пра сэнсава-стылістычную ролю і тэкстаўтваральныя магчымасці простых і складаных сказаў рознай будовы. Сфарміраваць уяўленне пра сінтаксічную сінаніміку. Выпрацоўваць уменні вызначаць сэнсава-стылістычную ролю простых і складаных сказаў рознай будовы і прызначэння, абгрунтоўваць мэтазгоднасць іх ужывання ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў; падбіраць да дадзеных сінтаксічных канструкцый | § 43, практ. 297–299; § 44, практ. 301, 302<br>**Д/з**: § 43, 44, практ. 300 |

*Заканчэнне*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | сінанімічныя, прыводзіць уласныя прыклады сінанімічных сінтаксічных канструкцый | |
| 50 | **Кантрольная тэставая работа** | Выявіць узровень ведання моўнай і маўленчай тэорыі, сфарміраванасці моўных і камунікатыўных уменняў і навыкаў | |
| **Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага (2 гадзіны)** | | | |
| 51<br>52 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага | Падагульніць і сістэматызаваць веды, удасканальваць уменні і навыкі па вывучаных раздзелах і тэмах курса мовы. Замацаваць уменне рабіць розныя віды моўнага разбору. Развіваць граматычны лад маўлення, узбагачаць слоўнікавы запас, удасканальваць культуру маўлення | § 45, практ. 303, 305–309, 311<br>Д/з: § 45, практ. 310; с. 244–245 (вусна адказаць на кантрольныя пытанні, выканаць кантрольныя заданні) |
| 53 | Рэзервовая гадзіна | | |

## Беларуская мова
## 11 клас

(53 гадзіны на год, 2 гадзіны на тыдзень у першым паўгоддзі, 1 гадзіна — у другім паўгоддзі, з іх 9 гадзін — на пісьмовыя работы)

Размеркаванне вучэбнага матэрыялу прыводзіцца ў адпаведнасці са зместам і структурай вучэбнага дапаможніка: Беларуская мова : вучэб. дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка [і інш.]. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. – 256 с.

| Нумар урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэты і задачы ўрока | Матэрыял вучэбнага дапаможніка, дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **І чвэрць (16 урокаў)** | | | |
| **Культура вуснага і пісьмовага маўлення (2 гадзіны)** | | | |
| 1 | Асноўныя якасці культуры маўлення | Сфарміраваць уяўленне аб культуры маўлення, асноўных камунікатыўных якасцях маўлення (правільнасці, дакладнасці, лагічнасці, чысціні, багацці, выразнасці, дарэчнасці) | § 1, практ. 1—4<br>**Д/з**: § 1, практ. 5; падрыхтаваць пісьмовае выказванне на тэму «Асноўныя камунікатыўныя якасці маўлення» |
| 2 | Маўленчы этыкет, асноўныя правілы маўленчых паводзін | Паглыбіць веды вучняў аб правілах маўленчых паводзін, формулах маўленчага этыкету. Сфарміраваць уяўленне пра нацыянальны характар маўленчага этыкету, гістарычную зменлівасць формул маўленчага этыкету, выкарыстанне правіл маўленчага этыкету як паказчык агульнай культуры асобы. Удасканальваць | § 2, практ. 6—9<br>**Д/з**: § 2, практ. 10; падрыхтаваць віншавальнае прывітанне |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | уменні ўжываць згодна з маўленчай сітуацыяй і зместам камунікацыі моўныя сродкі для наладжвання неканфліктных, добразычлівых і паспяховых узаемаадносін; захоўваць культуру маўленчых паводзін, дарэчы карыстацца нацыянальным маўленчым этыкетам | |
| **Правільнасць маўлення (40 гадзін, з іх 6 гадзін — на пісьмовыя работы)** | | | |
| 3 | Паняцце літаратурнай нормы. Зменлівасць нормаў. Варыянтнасць у маўленні | Сфарміраваць уяўленне пра літаратурную норму (характэрныя асаблівасці літаратурнай нормы), зменлівасць нормаў, варыянтнасць у маўленні. Выпрацоўваць уменне вызначаць мэтазгоднасць ужывання варыянтаў нормаў у маўленні | § 3, практ. 11–13<br>**Д/з:** § 3, практ. 14 |
| 4 | Арфаэпічныя нормы: вымаўленне галосных і зычных гукаў, некаторых спалучэнняў зычных | Пашырыць веды пра арфаэпічныя нормы, асаблівасці вымаўлення галосных і зычных гукаў, некаторых спалучэнняў зычных у беларускай мове. Удасканальваць уменне вымаўляць галосныя і зычныя гукі, спалучэнні зычных гукаў у адпаведнасці з арфаэпічнымі нормамі | § 4, практ. 15–18<br>**Д/з:** § 4, практ. 19; падрыхтаваць вуснае выказванне «Чаму трэба захоўваць арфаэпічныя нормы» |
| 5 | Акцэнталагічныя нормы. Лагічны націск | Паглыбіць веды пра акцэнталагічныя нормы і лагічны націск. Удасканальваць уменні захоўваць акцэнталагічныя нормы, вымаўляць з захаваннем акцэнталагічных нормаў руска-беларускія адпаведнікі, якія адрозніваюцца месцам націску, выдзяляць лагічным націскам словы ў залежнасці ад надання сказу пэўнага сэнсу | § 5, практ. 20, 22, 26, 29 (на выбар), практ. 23–25, 27, 28<br>**Д/з:** § 5, практ. 21, 30 (на выбар); падрыхтаваць адказы на кантрольныя пытанні і заданні (с. 28–29) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 6 | Арфаграфічныя нормы. Напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе. Правапіс галосных ***о, э, а***, галосных ***е, ё, я*** | Сфарміраваць уяўленне аб прынцыпах беларускай арфаграфіі, правілах, якія грунтуюцца на фанетычным прынцыпе.<br>Пашырыць веды пра арфаграфічныя нормы, правапіс галосных ***о, э, а***, галосных ***е, ё, я***. Удасканальваць навыкі напісання ў словах галосных ***о, э, а*** і ***е, ё, я*** ў адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі | С. 29—30;<br>§ 6, практ. 31, 32 (на выбар), практ. 33, практ. 34, 35 (на выбар); § 7, практ. 37, практ. 38, 40, 41 (на выбар), практ. 39<br>**Д/з**: § 6, 7, практ. 36, 42 (на выбар) |
| 7 | Правапіс галосных у складаных словах | Пашырыць веды аб правапісе галосных у складаных словах.<br>Удасканальваць навыкі напісання галосных у складаных словах паводле арфаграфічных нормаў | § 8, практ. 43—46<br>**Д/з**: § 8, практ. 47 |
| 8 | Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах, літар ***і, ы, й*** пасля прыставак | Пашырыць веды аб правапісе спалучэнняў галосных у запазычаных словах, літар ***і, ы, й*** пасля прыставак.<br>Удасканальваць навыкі напісання спалучэнняў галосных у запазычаных словах, літар ***і, ы, й*** пасля прыставак у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі | § 9, практ. 48, 49 (на выбар), практ. 50, 51 (на выбар), практ. 52;<br>§ 10, практ. 53, 55 (на выбар), практ. 54, 57<br>**Д/з**: § 9, 10, практ. 56 |
| 9 | Правапіс прыстаўных галосных, прыстаўных і ўстаўных зычных | Паглыбіць веды аб правапісе прыстаўных галосных, прыстаўных і ўстаўных зычных.<br>Удасканальваць навыкі напісання ў словах прыстаўных галосных, прыстаўных і ўстаўных зычных паводле арфаграфічных нормаў | § 11, практ. 58, 60, практ. 61, 62 (на выбар), практ. 63, 64<br>**Д/з**: § 11, практ. 59, 65 (на выбар) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 10 | Правапіс ***у*** і ***ў***; ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц*** | Пашырыць веды аб правапісе ***у*** і ***ў***; ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц***. Удасканальваць навыкі напісання літар ***у*** і ***ў***, ***д*** і ***дз***, ***т*** і ***ц*** у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі | § 12, практ. 66, 67 (на выбар), практ. 68, 70 (на выбар);<br>§ 13, практ. 71, 72, практ. 74, 75 (на выбар)<br>**Д/з:** § 12, 13, практ. 69, 73 (на выбар) |
| 11 | Правапіс падоўжаных зычных, некаторых спалучэнняў зычных, прыставак на ***з***, ***с*** | Пашырыць веды аб правапісе падоўжаных зычных, некаторых спалучэнняў зычных, прыставак на ***з***, ***с***. Удасканальваць навыкі напісання падоўжаных зычных, спалучэнняў зычных ***здн — зн***, ***згн — зн***, ***стн — сн***, ***скн — сн***, ***стл — сл***, ***рдн — рн***; ***ск***, ***ст***, ***сц [с'ц'] — шч***, прыставак на ***з***, ***с*** | § 14, практ. 76, 80 (на выбар), практ. 77—79 (на выбар);<br>§ 15, практ. 82, 83, 85;<br>§ 16, практ. 86—89 (на выбар)<br>**Д/з:** § 14—16, практ. 81, 84 (на выбар) або практ. 88 (падрыхтаваць вуснае сачыненне-мініяцюру на тэму аднаго з афарызмаў) |
| 12 | Напісанні, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе | Сфарміраваць уяўленне пра марфалагічны прынцып арфаграфіі.<br>Паглыбіць веды пра напісанні, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе (напісанне звонкіх зычных перад глухімі ў сярэдзіне слова; звонкіх зычных на канцы слова; глухіх зычных перад звонкімі; свісцячых перад шыпячымі; шыпячых перад свісцячымі; спалучэнняў зычных ***дч***, ***тч***, ***дц***, ***тц***, ***чц***; спалучэнняў ***з***, ***ж***, ***ш***, ***г***, ***к*** з суфіксальным ***с*** у прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў; прыставак ***аб-***, ***ад-***, ***над-***, ***пад-*** і прыназоўнікаў ***аб***, ***ад***, ***над***, ***пад***; | С. 62;<br>§ 17, практ. 90—93<br>**Д/з:** § 17, практ. 93 (напісаць сачыненне-мініяцюру на тэму аднаго з афарызмаў) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | прыназоўніка ***без*** і часціцы ***не***; зычнай ***д*** у прыметніках, утвораных з дапамогай суфікса ***-ск-***; каранёвага ***я*** і суфіксаў ***-язь***, ***-ядзь***).<br>Удасканальваць навыкі напісання слоў паводле марфалагічнага прынцыпу арфаграфіі | |
| 13 | Правапіс мяккага знака і апострафа | Пашырыць веды аб правапісе змякчальнага і раздзяляльнага мяккага знака і апострафа.<br>Удасканальваць навыкі правільнага напісання слоў са змякчальным і раздзяляльным мяккім знакам і апострафам | § 18, практ. 94, практ. 95, 96 (на выбар);<br>§ 19, практ. 97—100<br>**Д/з**: § 18, 19, практ. 101, 102 (на выбар) |
| 14 | **Кантрольны дыктант** | Выявіць узровень сфарміраванасці арфаграфічных навыкаў і пунктуацыйных уменняў | |
| 15 | Правапіс малой і вялікай літар | Пашырыць веды аб правапісе малой і вялікай літар.<br>Удасканальваць навыкі напісання малой і вялікай літар паводле арфаграфічных нормаў | § 20, практ. 103—106, 108<br>**Д/з**: § 20, практ. 107 |
| 16 | Правілы напісання слоў разам, праз злучок і асобна | Паглыбіць веды аб правілах напісання слоў разам, праз злучок і асобна.<br>Удасканальваць навыкі напісання слоў разам, праз злучок, напісання асобна спалучэнняў слоў | § 21, практ. 109—113 |
| **II чвэрць (16 урокаў)** | | | |
| **Правільнасць маўлення (працяг)** | | | |
| 17 | Падагульненне вывучанага пра арфаграфічныя нормы | Падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў пра арфаграфічныя нормы | Заданні на падагульненне (с. 83—84)<br>**Д/з**: падрыхтаваць адказы на кантрольныя пытанні і заданні (с. 83) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 18 | Марфалагічныя нормы. Ужыванне і правапіс назоўнікаў. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі. Род назоўнікаў | Сфарміраваць уяўленне пра марфалагічныя нормы. Узнавіць веды пра ўмовы размежавання назоўнікаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя, пра род назоўнікаў. Паглыбіць веды пра марфалагічныя нормы ўжывання адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў, назоўнікаў, род якіх не супадае ў беларускай і рускай мовах, назоўнікаў агульнага роду.<br>Удасканальваць уменні адрозніваць адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі; захоўваць марфалагічныя нормы пры ўжыванні адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў у вінавальным склоне; правільна вызначаць род назоўнікаў; не парушаць марфалагічныя нормы пры ўжыванні назоўнікаў, род якіх не супадае ў беларускай і рускай мовах, назоўнікаў агульнага роду | С. 85;<br>§ 22, практ. 114, практ. 115, 116 (на выбар);<br>§ 23, практ. 118—120 (на выбар), практ. 121, 122 (на выбар), практ. 123, практ. 124—126 (на выбар або па варыянтах), практ. 127<br>**Д/з**: § 22, 23, практ. 117, 128 (на выбар) |
| 19 | Лік назоўнікаў | Узнавіць веды пра лік назоўнікаў як граматычную катэгорыю.<br>Паглыбіць веды пра марфалагічныя нормы ўжывання назоўнікаў у форме адзіночнага і множнага ліку.<br>Удасканальваць уменні вызначаць лік нескланяльных назоўнікаў, утвараць паводле марфалагічных нормаў формы множнага ліку назоўнікаў | § 24, практ. 129—134<br>**Д/з**: § 24, практ. 135 |
| 20 | Скланенне назоўнікаў. Назоўнікі першага і другога скланення | Узнавіць і паглыбіць веды пра склонавыя канчаткі назоўнікаў 1-га і 2-га скланення. Удасканальваць уменне правільна ўтвараць і ўжываць у маўленні назоўнікі 1-га скланення ў давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку, назоўнікі 2-га скланення ў родным, творным і месным склонах адзіночнага ліку | § 25, практ. 136, практ. 137, 138 (на выбар), практ. 140, практ. 141—143, 145 (на выбар), практ. 144, 147<br>**Д/з**: § 25, практ. 139 (па варыянтах), практ. 146 (па варыянтах) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| 21 | Скланенне назоўнікаў. Назоўнікі другога і трэцяга скланення. Рознаскланяльныя назоўнікі | Узнавіць і паглыбіць веды пра склонавыя канчаткі назоўнікаў 2-га і 3-га скланення, рознаскланяльныя назоўнікі, асаблівасці іх скланення. Удасканальваць уменні правільна ўтвараць і ўжываць у маўленні назоўнікі 2-га скланення ў родным, творным і месным склонах адзіночнага ліку, назоўнікі 3-га скланення ў творным склоне адзіночнага ліку, правільна ўтвараць склонавыя формы рознаскланяльных назоўнікаў | § 25, практ. 148, 149 (на выбар), практ. 150, 151, практ. 152–154 (на выбар), практ. 155, 156, практ. 157, 160 (на выбар)<br>**Д/з**: § 25, практ. 158, 159 (на выбар) |
| 22<br>23 | **Кантрольны падрабязны пераказ тэксту** | Выявіць узровень сфарміраванасці ўменняў пісьмова падрабязна перадаваць змест тэксту, захоўваючы яго жанрава-стылістычныя і моўныя асаблівасці | |
| 24 | Скланенне назоўнікаў. Нескланяльныя назоўнікі. Канчаткі назоўнікаў у родным і месным склонах множнага ліку | Узнавіць і паглыбіць веды пра нескланяльныя назоўнікі, склонавыя канчаткі назоўнікаў у множным ліку.<br>Удасканальваць уменні захоўваць марфалагічныя нормы пры ўжыванні нескланяльных назоўнікаў; правільна ўтвараць і ўжываць у маўленні назоўнікі ў формах роднага і меснага склонаў множнага ліку | § 25, практ. 161, 162, практ. 163, 164 (на выбар), практ. 165, 166, практ. 168, 169 (на выбар)<br>**Д/з**: § 25, практ. 167 |
| 25 | Ужыванне і правапіс прыметнікаў | Узнавіць і паглыбіць веды пра поўныя і кароткія прыметнікі, іх граматычныя асаблівасці; утварэнне ступеней параўнання якасных прыметнікаў; прыналежныя прыметнікі, іх значэнне, утварэнне, граматычныя асаблівасці. | § 26, практ. 170 (пераклад тэксту з рускай мовы на беларускую);<br>§ 27, практ. 171–173, 174 (на выбар);<br>§ 28, практ. 175, 176 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Удасканальваць уменні ўжываць поўныя і кароткія формы прыметнікаў, утвараць ступені параўнання якасных прыметнікаў і прыналежныя прыметнікі паводле марфалагічных нормаў | **Д/з**: § 26–28, практ. 174, 177 (на выбар) |
| 26 | Ужыванне і правапіс лічэбнікаў, займеннікаў | Узнавіць і паглыбіць веды пра скланенне колькасных і парадкавых лічэбнікаў, спалучальнасць зборных лічэбнікаў, асаблівасці ўжывання займеннікаў у беларускай мове.<br>Удасканальваць уменні ўтвараць і ўжываць скланавыя формы лічэбнікаў згодна з марфалагічнымі нормамі, ужываць займеннікі розных разрадаў у адпаведнасці з марфалагічнымі нормамі | § 29, практ. 178, практ. 179, 180 (на выбар), практ. 181;<br>§ 30, практ. 182, 183;<br>§ 31, практ. 185<br>**Д/з**: § 29–31, практ. 184 |
| 27 | Ужыванне і правапіс дзеясловаў, дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, прыслоўяў | Узнавіць і паглыбіць веды пра асабовыя канчаткі дзеясловаў I і II спражэнняў, асаблівасці ўтварэння і ўжывання дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў у беларускай мове, утварэнне ступеней параўнання прыслоўяў.<br>Удасканальваць уменні правільна ўтвараць формы дзеясловаў, утвараць формы ступеней параўнання прыслоўяў і ўжываць іх у маўленні ў адпаведнасці з марфалагічнымі нормамі | § 32, практ. 186, практ. 187, 188 (на выбар); утварэнне ад дзеясловаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў;<br>§ 33, практ. 189–191<br>**Д/з**: § 32, 33, практ. 192; падрыхтаваць адказы на кантрольныя пытанні і заданні (с. 123) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 28 | Сінтаксічныя нормы. Правілы дапасавання і кіравання | Сфарміраваць уяўленне пра сінтаксічныя нормы. Узнавіць і паглыбіць веды аб правілах дапасавання і кіравання, асаблівасцях будовы сінтаксічных канструкцый беларускай мовы ў параўнанні з рускай. Удасканальваць уменне спалучаць словы ў маўленні паводле сінтаксічных нормаў | § 34, практ. 193—195<br>**Д/з**: § 34, практ. 196 |
| 29<br>30 | **Кантрольны падрабязны пераказ тэксту** | Выявіць узровень сфарміраванасці ўменняў пісьмова падрабязна перадаваць змест тэксту, захоўваючы яго жанрава-стылістычныя і моўныя асаблівасці | |
| 31 | Правілы спалучэння аднародных і адасобленых членаў | Узнавіць і паглыбіць веды пра аднародныя і адасобленыя члены сказа. Сфарміраваць уяўленне аб правілах спалучэння аднародных і адасобленых членаў.<br>Удасканальваць уменне правільна спалучаць аднародныя і адасобленыя члены сказа ў вусным і пісьмовым маўленні | § 35, практ. 197, практ. 198 (па варыянтах), практ. 199 (па варыянтах), практ. 200, 201 (на выбар)<br>**Д/з**: § 35, практ. 202 |
| 32 | Парадак слоў, сувязь дзейніка і выказніка ў сказе, правілы ўжывання дзеепрыслоўных зваротаў | Узнавіць і паглыбіць веды пра парадак слоў, сувязь дзейніка і выказніка ў сказе, дзеепрыслоўныя звароты, правілы ўжывання дзеепрыслоўных зваротаў. Сфарміраваць уяўленне пра функцыі парадку слоў у сказе. Выпрацоўваць уменне вызначаць функцыю парадку слоў у сказе. Удасканальваць уменні правільна спалучаць дзейнік і выказнік у вусным і пісьмовым маўленні, ужываць у адпаведнасці з сінтаксічнымі нормамі дзеепрыслоўныя звароты | § 36, практ. 203—205;<br>§ 37, практ. 206, практ. 207, 208 (на выбар), 209, практ. 210 (вусна) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **III чвэрць (11 урокаў)** | | | |
| **Правільнасць маўлення (працяг)** | | | |
| 33 | Правілы пабудовы складаных сказаў. Паўтарэнне. Асноўныя якасці культуры маўлення. Паняцце літаратурнай нормы | Узнавіць і паглыбіць веды пра складаныя сказы. Сфарміраваць уяўленне аб правілах пабудовы складаных сказаў, прычынах памылак пры пабудове складаных сказаў. Удасканальваць уменні правільна ўтвараць складаныя сказы, ужываць складаныя сказы розных тыпаў у тэкстах пэўнага стылю.<br>Актуалізаваць веды пра асноўныя якасці культуры маўлення, літаратурныя нормы | § 38, практ. 211, практ. 212, 214 (на выбар), практ. 213, 217 (на выбар), практ. 215 (па варыянтах)<br>**Д/з:** § 38, практ. 216, 218 (на выбар); паўтарыць § 1–3 |
| 34 | Пунктуацыйныя нормы. Знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі.<br>Паўтарэнне.<br>Арфаэпічныя нормы. Акцэнталагічныя нормы. Лагічны націск | Узнавіць веды пра пунктуацыю як раздзел мовазнаўства. Сфарміраваць уяўленне пра пунктуацыйныя нормы і пунктуацыйныя варыянты. Узнавіць веды аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі.<br>Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць сказы з аднароднымі членамі.<br>Актуалізаваць веды пра арфаэпічныя і акцэнталагічныя нормы, лагічны націск | С. 149–150;<br>§ 39, практ. 219, 223 (на выбар), практ. 220, 221, практ. 222 (па варыянтах); запіс пад дыктоўку сказаў з аднароднымі членамі, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з:** § 39, практ. 224; паўтарыць § 4, 5 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 35 | Знакі прыпынку ў сказах з адасобленымі членамі. Паўтарэнне. Арфаграфічныя нормы. Напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе | Узнавіць і паглыбіць веды аб адасобленых членах сказа, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з адасобленымі азначэннямі, прыдаткамі, акалічнасцямі, дапаўненнямі і ўдакладняльнымі членамі. Удасканальваць уменні правільна пунктуацыйна афармляць сказы з адасобленымі членамі. Актуалізаваць веды пра арфаграфічныя нормы, прынцыпы арфаграфіі, напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе | С. 156; § 40, практ. 225, 226, практ. 227, 228 (на выбар); § 41, практ. 229, 230; запіс пад дыктоўку сказаў з адасобленымі членамі, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку **Д/з:** § 40, 41, практ. 231 (напісаць сачыненне-разважанне «Роля мовы ў жыцці грамадства» («Гукі роднай мовы»)) або практ. 232 (на выбар); паўтарыць § 6—16 |
| 36 | Знакі прыпынку ў сказах з параўнальнымі зваротамі, з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, звароткамі. Паўтарэнне. Напісанні, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе | Узнавіць і паглыбіць веды аб параўнальных зваротах, пабочных і ўстаўных канструкцыях, зваротках, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з параўнальнымі зваротамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, звароткамі. Удасканальваць уменні афармляць сказы з параўнальнымі зваротамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, звароткамі ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Актуалізаваць веды пра напісанні, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе | § 42, практ. 233, практ. 234, 235 (на выбар); § 43, практ. 236; практ. 237, 238, 240 (на выбар); § 44, практ. 241—243 (на выбар); запіс пад дыктоўку сказаў з параўнальнымі зваротамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, звароткамі, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку **Д/з:** § 42—44, практ. 239 або практ. 243 (выканаць дадатковае заданне); паўтарыць § 17 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 37 | Знакі прыпынку ў складаназлучаных сказах. Паўтарэнне. Правапіс мяккага знака і апострафа, малой і вялікай літар; правілы напісання слоў разам, праз злучок і асобна | Узнавіць і паглыбіць веды аб складаназлучаных сказах, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназлучаных сказах. Сфарміраваць уяўленне аб інтанаванні складаназлучаных сказаў. Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць складаназлучаныя сказы. Актуалізаваць веды аб правапісе мяккага знака і апострафа, малой і вялікай літар, правілах напісання слоў разам, праз злучок і асобна | § 45, практ. 244—247; запіс пад дыктоўку складаназлучаных сказаў, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей, сэнсавых адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з**: § 45, практ. 247 (падрыхтаваць пісьмовае або вуснае выказванне на тэму «Выбар прафесіі» («Кім я хачу быць»)); паўтарыць § 18—21 |
| 38 | Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах. Паўтарэнне. Марфалагічныя нормы. Ужыванне і правапіс назоўнікаў, прыметнікаў | Узнавіць і паглыбіць веды аб складаназалежных сказах, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах. Сфарміраваць уяўленне аб інтанаванні складаназалежных сказаў. Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць складаназалежныя сказы. Актуалізаваць веды пра марфалагічныя нормы, ужыванне і правапіс назоўнікаў, прыметнікаў | § 46, практ. 248, 249, практ. 250 (па варыянтах), практ. 251; запіс пад дыктоўку складаназалежных сказаў, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей, сэнсавых адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з**: § 46, практ. 252 (па варыянтах), практ. 253; паўтарыць § 22—28 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 39 | Знакі прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах. Паўтарэнне. Ужыванне і правапіс лічэбнікаў, займеннікаў | Узнавіць і паглыбіць веды пра бяззлучнікавыя складаныя сказы, правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах. Сфарміраваць уяўленне аб інтанаванні бяззлучнікавых складаных сказаў. Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць бяззлучнікавыя складаныя сказы. Актуалізаваць веды пра ўжыванне і правапіс лічэбнікаў, займеннікаў | § 47, практ. 254—256, практ. 257, 258 (на выбар), практ. 260; запіс пад дыктоўку бяззлучнікавых складаных сказаў, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей, сэнсавых адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з:** § 47, практ. 259, 261 (на выбар); паўтарыць § 29—31 |
| 40 | Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак. Паўтарэнне. Ужыванне і правапіс дзеясловаў, дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, прыслоўяў | Узнавіць веды аб складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак. Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Актуалізаваць веды пра ўжыванне і правапіс дзеясловаў, дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, прыслоўяў | § 48, практ. 262—264; запіс пад дыктоўку складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак, вызначэнне іх структурных асаблівасцей, сэнсавых адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з:** § 48, практ. 265; паўтарыць § 32, 33 |
| 41 | **Кантрольны дыктант** | Выявіць узровень сфарміраванасці арфаграфічных навыкаў і пунктуацыйных уменняў | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 42 | Знакі прыпынку ў канструкцыях з простай мовай. Паўтарэнне. Сінтаксічныя нормы. Правілы дапасавання і кіравання, спалучэння аднародных і адасобленых членаў | Узнавіць веды аб канструкцыях з простай мовай, правілах пунктуацыйнага афармлення канструкцый з простай мовай. Удасканальваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць канструкцыі з простай мовай. Актуалізаваць веды пра сінтаксічныя нормы, правілы дапасавання і кіравання, спалучэння аднародных і адасобленых членаў | § 49, практ. 266, практ. 267, 268 (на выбар), практ. 269; запіс пад дыктоўку канструкцый з простай мовай, вызначэнне іх структурных і інтанацыйных асаблівасцей; тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з:** § 49, падрыхтаваць адказы на кантрольныя пытанні і заданні (с. 203); выканаць заданні на падагульненне (с. 204—207 (па варыянтах)); паўтарыць § 34, 35 |
| **Дакладнасць і лагічнасць маўлення (1 гадзіна)** | | | |
| 43 | Дакладнасць і лагічнасць маўлення. Паўтарэнне. Парадак слоў, сувязь дзейніка і выказніка ў сказе, правілы ўжывання дзеепрыслоўных зваротаў, пабудовы складаных сказаў | Паглыбіць веды пра дакладнасць і лагічнасць як асноўныя якасці культуры маўлення; сфарміраваць уяўленне аб прычынах парушэння дакладнасці маўлення, аб правілах лагічнасці маўлення. Дапамагаць авалодваць дакладнасцю і лагічнасцю маўлення (удасканальваць уменні захоўваць лексічныя нормы, правільна выкарыстоўваць фразеалагізмы ў пэўным кантэксце, карыстацца лінгвістычнымі сродкамі, якія забяспечваюць лагічнасць выказвання).<br>Актуалізаваць веды аб парадаку слоў, сувязі дзейніка і выказніка ў сказе, правілах ужывання дзеепрыслоўных зваротаў, правілах пабудовы складаных сказаў | § 50, практ. 270—273 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **IV чвэрць (10 урокаў)** | | | |
| **Чысціня маўлення (1 гадзіна)** | | | |
| 44 | Чысціня маўлення. Паўтарэнне. Пунктуацыйныя нормы. Знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі, адасобленымі членамі, параўнальнымі зваротамі, з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, зваротkамі | Паглыбіць веды пра чысціню як асноўную якасць культуры маўлення. Дапамагаць авалодваць чысцінёй маўлення (удасканальваць уменні выкарыстоўваць моўныя сродкі ў адпаведнасці з літаратурнымі нормамі, пазбягаць пазалітаратурных моўных элементаў, ужывання запазычанняў без патрэбы і г. д.). Актуалізаваць веды аб пунктуацыйных нормах; правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі, адасобленымі членамі, параўнальнымі зваротамі, з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, са зваротkамі | § 51, практ. 274—277<br>**Д/з**: § 51, практ. 278; паўтарыць § 39—44 |
| **Багацце і выразнасць маўлення (2 гадзіны, з іх 1 гадзіна — на пісьмовую работу)** | | | |
| 45 | Багацце і выразнасць маўлення. Паўтарэнне. Знакі прыпынку ў складаных сказах | Паглыбіць веды пра багацце і выразнасць як асноўныя якасці культуры маўлення. Дапамагаць авалодваць багаццем і выразнасцю маўлення (удасканальваць уменні карыстацца слоўнікавым багаццем сучаснай беларускай мовы, арганізоўваць маўленне ў залежнасці ад ступені валодання слоўным запасам). Актуалізаваць веды аб правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназлучаных, складаназалежных, бяззлучнікавых складаных сказах, у складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак | § 52, практ. 279, практ. 280. 281 (на выбар);<br>§ 53, практ. 282, практ. 283, 284, 286—288 (на выбар), практ. 289, 290, практ. 291, 292 (на выбар), практ. 293, 294, 296 (на выбар)<br>**Д/з**: § 52, 53, практ. 285, 295 (на выбар); паўтарыць § 45—48 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 46 | **Пісьмовая творчая работа** | Удасканальваць уменне ствараць пісьмовае выказванне на прапанаваную тэму | |
| **Дарэчнасць маўлення (1 гадзіна)** | | | |
| 47 | Дарэчнасць маўлення. Паўтарэнне. Знакі прыпынку ў канструкцыях з простай мовай | Паглыбіць веды пра дарэчнасць як асноўную якасць культуры маўлення. Дапамагаць авалодваць дарэчнасцю маўлення (удасканальваць уменне адбіраць моўныя сродкі ў залежнасці ад тэмы паведамлення, мэты і ўмоў камунікацыі, складу слухачоў ці чытачоў).<br>Актуалізаваць веды аб правілах пунктуацыйнага афармлення канструкцый з простай мовай | § 54, практ. 297, 298, практ. 299 (падрыхтоўка тэксту віншавання сябра з днём нараджэння, прывітальнага слова да першакласнікаў 1-га верасня)<br>**Д/з:** § 54, практ. 299 (падрыхтаваць тэкст выступлення перад аднакласнікамі на факультатыўных занятках па беларускай мове); падрыхтаваць адказы на кантрольныя пытанні і заданні (с. 223); паўтарыць § 49 |
| **Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага (4 гадзіны, з іх 2 гадзіны — на пісьмовыя работы)** | | | |
| 48 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага | Падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў па вывучаных раздзелах і тэмах праграмы | Практ. 300, 301, 303<br>**Д/з:** практ. 302 |
| 49<br>50 | **Тэставая кантрольная работа і яе аналіз** | Выявіць узровень засваення тэарэтычнага матэрыялу па вывучаных раздзелах, сфарміраванасці моўных і маўленчых уменняў і навыкаў; правесці аналіз памылак, дапушчаных вучнямі пры выкананні тэставай кантрольнай работы | |

*Заканчэнне*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 51 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага | Падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў па вывучаных раздзелах і тэмах праграмы | Практ. 304–306; запіс пад дыктоўку слоў, сказаў, тэкстаў; рэдагаванне сказаў, тэкстаў |
| 52<br>53 | Рэзервовыя гадзіны | | |

# Беларуская літаратура
## 10 клас

(53 гадзіны на год, з іх на творчыя работы — 4 гадзіны)

Размеркаванне вучэбнага матэрыялу прыводзіцца ў адпаведнасці са зместам і структурай вучэбнага дапаможніка: Беларуская літаратура. 10 клас / пад рэд. З. П. Мельнікавай, Г. М. Ішчанкі. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009.

| Нумар урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэта ўрока | Дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя (17 гадзін + 2 гадзіны на творчую работу)** | | | |
| 1 | **Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя на фоне гістарычных падзей і развіцця сусветнай літаратуры** | Пазнаёміць вучняў з асаблівасцямі вывучэння курса літаратуры ў 10 класе, даць характарыстыку літаратурна-грамадскаму руху ў 20-я гады, засярodзіць увагу на пераемнасці ў развіцці літаратуры з «нашаніўскім» перыядам, на ролі літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», «Полымя» ў гісторыі айчыннага пісьменства, паказаць уплыў грамадскіх падзей на праблематыку і вобразную сістэму мастацкіх твораў. Развіваць аналітычнае мысленне вучняў, навыкі слухання і канспектавання. Садзейнічаць выхаванню маўленчай культуры вучняў, пашыраць іх інтэлектуальную прастору | С. 3–14, адказы на пытанні |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 2 | **Максім Гарэцкі. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.** Апавяданне «Роднае карэнне» | Зрабіць кароткі агляд жыццёвага і творчага шляху М. Гарэцкага — пісьменніка, тэарэтыка і гісторыка літаратуры, раскрыць тэму вернасці роднай зямлі, служэння інтэлігенцыі народу ў апавяданні «Роднае карэнне». Развіваць уменні дзяліць мастацкі твор на сэнсавасамастойныя часткі, складаць план апавядання і сцісла пераказваць асобныя яго часткі. Уплываць на фарміраванне пачуцця грамадзянскага абавязку, любові і павагі да роднай зямлі | С. 19—23 (азнаёміцца), падабраць цытаты для характарыстыкі Архіпа Лінкевіча і дзеда Яхіма |
| 3 | **Апавяданне «Роднае карэнне».** Вобраз Архіпа Лінкевіча. Жыццёвая мудрасць дзеда Яхіма, яго запавет маладому пакаленню | Ахарактарызаваць вобраз Архіпа Лінкевіча — вясковага інтэлігента з абуджаным сумленнем, пачуццём абавязку перад людзьмі, засяродзіць увагу на яго імкненні пазнаць жыццё; раскрыць агульначалавечую сутнасць парад дзеда Яхіма. Развіваць уменні аналізаваць мастацкі вобраз, складаць план характарыстыкі героя, даваць учынкам героя ўласную ацэнку, падмацаваную тэкстам. Садзейнічаць выхаванню такіх пачуццяў, як вернасць роднаму краю, роднаму карэнню, скіраваць роздум вучняў на асэнсаванне паняццяў «любоў да бацькоў», «адказнасць за блізкіх» | С. 23, пытанні 3, 4, 8. Прачытаць апавяданне «Літоўскі хутарок» |
| 4 | **Аўтабіяграфічнасць апавядання «Літоўскі хутарок».** Гуманістычная канцэпцыя пісьменніка. Вобраз Яна Шымкунаса | Правесці аналіз зместу апавядання, у аснове якога ўласныя ўспаміны пра Першую сусветную вайну, праз пейзаж, кантрасныя малюнкі, дэталі, мастацкія сродкі мовы паказаць жыццё чалавека ў час ваеннага ліхалецця, беручы пад увагу лёс членаў сям'і Яна Шымкунаса, бескарыслівага, высакароднага, гуманнага чалавека, раскрыць гуманістычны ідэал пісьменніка. Удасканаль- | С. 24—28, пытанне 5 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | ваць навыкі аналізу мастацкага твора, развіваць уменне складаць разгорнуты цытатны план апавядання, рыхтаваць вуснае выказванне па пытаннях, якія разглядаліся на ўроку. Фарміраваць адносіны да вайны як да самай злачыннай, антычалавечай з'явы ў свеце, выхоўваць гуманнае стаўленне да людзей і свету | |
| 5 | **Змітрок Бядуля. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.** Абразкі і лірычныя мініяцюры («Плач пралескаў», «Нібы рупны араты...») | Пазнаёміць вучняў з жыццёвым і творчым шляхам З. Бядулі – пісьменніка, у творчасці якога спалучаюцца рамантычная настраёвасць і рэалістычнае адлюстраванне жыцця, даць паняцці «абразок», «лірычная мініяцюра», правесці ідэйна-эстэтычны аналіз твораў «Плач пралескаў», «Нібы рупны араты...». Развіваць вуснае маўленне вучняў, навыкі выразнага чытання і вуснага слоўнага малявання. Уплываць на фарміраванне духоўнага свету дзяцей | С. 37, пытанні, прачытаць апавяданне «Бондар», малюнкі да твора па жаданні |
| 6 | **Апавяданне «Бондар».** Вырашэнне тэмы мастака і мастацтва ў кантэксце сацыяльных праблем. Вобраз майстра-працаўніка | Праверыць ступень разумення зместу апавядання «Бондар», выкарыстоўваючы прыём незакончаных сказаў, ілюстрацыі, падрыхтаваныя вучнямі дома, прааналізаваць апавяданне, высветліць тэму, ідэю і мастацкія адметнасці твора, ахарактарызаваць вобраз майстра-працаўніка. Удасканальваць навыкі пераказу, складання плана твора, адбору тэкставай інфармацыі для характарыстыкі героя. Выхоўваць у вучняў адмоўнае стаўленне да праяўлення чэрствасці і абыякавасці, да эстэтычнай неразвітасці | С. 37—40, вусны водгук на твор (памятка на с. 294) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 7 | **Уладзімір Дубоўка. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта.** Асноўныя матывы лірыкі | Пазнаёміць вучняў з асобай паэта У. Дубоўкі, раскрыць тэматыку яго вершаў, прааналізаваць вершы «О Беларусь, мая шыпшына...», «Родная мова, цудоўная мова...», прасачыць за тым, як у паэтычных творах аўтар услаўляе сілы народа, духоўнасць, вальналюбства чалавека. Працягваць развіццё навыкаў аналізу паэтычнага твора. Садзейнічаць выхаванню цікавасці да творчай індывідуальнасці паэта | С. 45–49, 52–53, ідэйна-мастацкі аналіз вершаў «О Беларусь, мая шыпшына...», «Родная мова, цудоўная мова...» |
| 8 | **Паэтызацыя красы прыроды, кахання.** Сувязь лірыкі У. Дубоўкі з традыцыямі фальклору, паэзіяй Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча | Правесці ідэйна-мастацкі аналіз вершаў «Залатая асенняя раніца», «Пальцы жоўтых кляновых лістоў», у якіх паэтызуецца краса прыроды, засяродзіць увагу вучняў на высокай культуры верша, шчырым лірызме, асацыятыўнай вобразнасці, багацці жанравых форм, паказаць сувязь лірыкі паэта з традыцыямі фальклору, паэзіяй Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Развіваць уменне адрозніваць асабістааўтарскае і традыцыйнае ў творы , удасканальваць навыкі аналізу верша. Садзейнічаць выхаванню экалагічнай культуры вучняў, іх дапытлівасці і назіральнасці | С. 49–50, 53–54. Падрыхтаваць выразнае чытанне вершаў, у якіх паэтызуецца краса прыроды: I варыянт – Уладзіміра Жылкі, II варыянт – Язэпа Пушчы |
| 9 | **Кандрат Крапіва. Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Байкі** («Дыпламаваны баран», «Махальнік Іваноў») | Пазнаёміць з умовамі жыцця і фарміравання творчай індывідуальнасці К. Крапівы байкапісца і драматурга, раскрыць жанрава-тэматычную разнастайнасць байкі, вылучыць у байках асноўныя іх асаблівасці, прасачыць, як у змесце баек высмейваюцца бескультур'е, амаральнасць, некампетэнтнасць, бяздушнае стаўленне да сумленных працаўнікоў, самаўпэўненасць, нахабства, тупасць, падхалімства і іншыя чалавечыя заганы. Развіваць мысленне і творчыя здольнасці вучняў, навыкі выразнага чытання, аналізу алегарычнага твора. Уплываць на фарміраванне станоўчых маральных якасцей асобы | С. 59–62, вывучыць на памяць байку К. Крапівы |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 10 | **Камедыя «Хто смяецца апошнім».** Актуальнасць праблем, узнятых у камедыі. Канфлікт у п'есе | Пазнаёміць з часам напісання і гісторыяй пастаноўкі камедыі, падвесці вучняў да ўсведамлення спецыфікі сатырычнай камедыі, правесці дыягнастычную гутарку па змесце, вызначыць асноўны канфлікт п'есы і на яго падставе сфармуляваць праблемы твора. Развіваць навыкі аналізу драматычнага твора, уменне праводзіць сувязь паміж дзеяннямі ў сатырычнай камедыі з канкрэтнымі гістарычнымі праблемамі. Выклікаць цікавасць да асобы драматурга і яго спадчыны, садзейнічаць выхаванню тэатральнага густу вучняў | Вылучыць эпізоды, якія дапамагаюць раскрыць характары Гарлахвацкага, Зёлкіна, Тулягі, падрыхтаваць іх выразнае чытанне па ролях |
| 11 | **Маштабнасць сатырычных вобразаў** Гарлахвацкага і Зёлкіна. Эвалюцыя характару Тулягі | Паглыбіць і ўдасканаліць першапачатковае ўспрыманне твора вучнямі, даць характарыстыку Гарлахвацкаму і Зёлкіну, у вобразах якіх увасоблены такія негатыўныя з'явы, як невуцтва, дэмагогія, падхалімства, прыстасавальніцтва, прасачыць за зменамі, якія адбываюцца ў характары Тулягі, акрэсліць прыёмы стварэння сатырычнага вобраза ў драматычным творы. Развіваць уменні аналізаваць мастацкі вобраз, складаць план характарыстыкі героя, на падставе тэксту даваць учынкам героя ўласную ацэнку, аргументаваць сваё выказванне. Дапамагчы вучням упэўніцца ў спрадвечнай ісціне: чалавека ацэньваюць не па словах, а па справах, прыстойнасць, духоўная смеласць робяць асобу моцнай | С. 64–69, падрыхтаваць маналог-самараскрыццё:<br>I варыянт – Гарлахвацкага,<br>II варыянт – Зёлкіна,<br>III варыянт – Тулягі |
| 12 | **Вобразы – носьбіты аўтарскай пазіцыі**: Чарнавус, Лeвановіч, Вера. Мова персанажаў як сродак раскрыц- | Вызначыць ідэйна-кампазіцыйную ролю вобразаў Чарнавуса, Левановіча, Веры, даць ім характарыстыку, пры аналізе твора назіраць за трапнасцю і выразнасцю маўлення герояў, за мастацкімі сродкамі стварэння гумарыстычнага і сатырычнага, правесці абагульняльную гутарку па п'есе, | С. 69–73, падрыхтаваць матэрыял для напісання кантрольнага сачынення |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | ця іх характараў. Значэнне творчасці К. Крапівы | падрыхтаваць вучняў да напісання сачынення-разважання па праблемах, узнятых у п'есе. Развіваць уменне весці дыскусію, аргументаваць ці аспрэчваць выказванне. Паспрыяць выхаванню культуры ўзаемаадносін | |
| 13<br>14 | **Класнае кантрольнае сачыненне** | Развіваць пісьмовае маўленне, лагічнае мысленне. Садзейнічаць развіццю творчага патэнцыялу вучняў, выхаванню літаратурна-лінгвістычнай кампетэнцыі асобы | Прачытаць першы скрутак рамана А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» |
| 15 | **Андрэй Мрый. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка. Раман «Запіскі Самсона Самасуя»** — твор пра анамаліі грамадскага жыцця сярэдзіны 1920-х гадоў | Узгадаць найбольш важныя звесткі біяграфіі і творчай дзейнасці А. Мрыя; аднавіць змест першага скрутка рамана «Запіскі Самсона Самасуя», паглыбіць веды вучняў пра час, адлюстраваны ў творы; узнавіць веды пра гумар, іронію, сатыру, шарж, даць паняцце «сатырычны раман», папоўніць слоўнікавы запас вучняў. Развіваць лагічнае мысленне і маўленне вучняў. Выхоўваць грамадзянскую пазіцыю старшакласнікаў | С. 80–81, 86–89. Прачытаць другі скрутак рамана А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» |
| 16 | **Галоўны герой рамана Самсон Самасуй.** Сатырычная характарыстыка і маральная ацэнка дзейнасці шапялёўскай інтэлігенцыі | Узнавіць змест другога скрутка рамана, даць сатырычную характарыстыку і маральную ацэнку дзейнасці шапялёўскай інтэлігенцыі, прааналізаваць учынкі і паводзіны галоўнага героя Самсона Самасуя, высветліць, што такое самасуеўшчына, у чым небяспека гэтай грамадскай з'явы і як з ёй змагацца. Развіваць уменні адбіраць тыповае, аргументаваць свой выбар, падмацоўваць сказанае цытатамі з рамана. Вучыць фармуляваць і выказваць уласную думку, адстойваць пазіцыю, пераконваць іншых, паважаць чужое меркаванне і дасягаць згоды | С. 81–86. Характарыстыка Самсона Самасуя |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 17 | **Стэфан Цвэйг. Навела «Нябачная калекцыя»** | Раскрыць вучням свет творчай спадчыны сусветна вядомага аўстрыйскага пісьменніка-навеліста С. Цвэйга, шляхам аналізу навелы «Нябачная калекцыя» паглыбіць паняцце пра рэалістычныя традыцыі, пра псіхалагізм у абмалёўцы герояў, вучыць вызначаць праблематыку твора. Развіваць творчае мысленне, вуснае маўленне, уменне прагназаваць вынік, навык фармулёўкі пытанняў тыпу ***што? дзе? калі?*** Скіраваць вучняў на роздум пра сапраўдныя каштоўнасці чалавечага жыцця | С. 94—100, пытанне 5 |
| 18 | **Міхась Зарэцкі. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка. Грамадскае і асабістае ў апавяданні «Ворагі»** | Пазнаёміць вучняў з асобай М. Зарэцкага, для творчасці якога характэрна тэматычная разнастайнасць, вастрыня канфлікту, стварэнне складаных характараў, правесці аналіз апавядання «Ворагі», скіраваць увагу вучняў на сутыкненне ў творы грамадскага і асабістага, паглыбіць веды вучняў пра стыль пісьменніка. Развіваць уменне знаходзіць у творы мастацкія дэталі і высвятляць іх функцыю, карыстацца рознага роду даведачна-інфармацыйнай літаратурай. Уплываць на фарміраванне духоўнага свету вучняў | С. 107—109, пытанне 4, прачытаць апавяданне «Кветка пажоўклая» |
| 19 | **Паказ маральнай дэградацыі Марыны Гарновай у апавяданні «Кветка пажоўклая».** Псіхалагізм, вастрыня канфлікту ў творы | Праверыць ступень разумення зместу апавядання «Кветка пажоўклая», вызначыць асноўную праблему твора, давесці вучням, што падставай для маральнай дэградацыі асобы з'яўляюцца бязлітасныя адносіны да родных і блізкіх. Замацоўваць уменне самастойна ацэньваць вывучаны твор, адрозніваць псіхалагічныя прыёмы, якімі карыстаецца аўтар для раскрыцця характару. Дапамагчы вучням яшчэ раз упэўніцца ў тым, што духоўная раўнавага, шчасце там, дзе твая сям'я, твае блізкія | С. 105—107, паўтарыць матэрыял раздзела «Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Беларуская літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны (13 гадзін)** | | | |
| 20 | **Беларуская літаратура ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945)** | Правесці тэматычны кантроль па тэме «Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя на фоне гістарычных падзей і развіцця сусветнай літаратуры», даць характарыстыку літаратуры ваеннага часу, адзначыўшы вядучую ролю лірыкі, публіцыстыкі і сатыры, пазнаёміць з творамі пісьменнікаў-франтавікоў, якія аддалі сваё жыццё за Радзіму і яе будучыню. Развіваць мысленне, удасканальваць навыкі выразнага чытання. Садзейнічаць выхаванню эмацыйнай сферы вучняў | С. 113—115, пытанні |
| 21 | **Пятрусь Броўка. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта.** Агляд творчасці перыяду Вялікай Айчыннай вайны | Пазнаёміць вучняў з жыццёвым і творчым шляхам П. Броўкі, зрабіць агляд твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны, у якіх аўтар выяўляе палымяную веру ў перамогу, паказаць на прыкладзе верша «Будзем сеяць, беларусы!», як пераасэнсоўваецца традыцыйны нацыянальна-паэтычны матыў сяўбы, прааналізаваць баладу-рэквіем «Надзя-Надзейка». Удасканальваць навыкі аналізу мастацка-выяўленчых сродкаў мовы. Выхоўваць патрыятычныя пачуцці вучняў | С. 120—122, выразнае чытанне вершаў «Будзем сеяць, беларусы!», «Надзя-Надзейка» |
| 22 | **Творчасць П. Броўкі канца 1940-х — пачатку 1950-х гадоў. Пашырэнне ідэйна-тэматычнага і жанравага дыяпазону паэзіі ў 1960 — 1970-я гады** | Дапамагчы вучням асэнсаваць жанрава-тэматычную разнастайнасць, ідэйны сэнс і эмацыянальную настраёвасць вершаў паэта пасляваеннага часу, прааналізаваць творы «Родныя словы», «Александрына», «Вось і лета сышло́...», «А ты ідзі», у якіх увага аўтара скіравана на маральна-этычныя і агульначалавечыя праблемы, паэтызуецца краса прыроды. Працягваць працу па фарміраванні ўменняў разумець духоўны | С. 123—127, прэзентацыя любога праграмнага верша П. Броўкі або вершаў «Пахне чабор», «Сляды» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | свет лірычнага героя, вылучаць мастацкія сродкі, якія дапамогуць раскрыць ідэю і праблему твора. Выхоўваць веру ў духоўную моц чалавека, пачуццё любові да роднага краю | |
| 23 | **Кузьма Чорны. Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. «Пошукі будучыні» — буйны эпічны твор часу вайны.** Сацыяльна-філасофскі змест рамана | Паглыбіць веды пра жыццяпіс К. Чорнага, акрэсліць жанравую разнавіднасць рамана «Пошукі будучыні», высветліць першаснае чытацкае ўспрыманне твора. Развіваць лагічнае мысленне, навыкі вуснага маўлення, уменне даваць самаацэнку прачытанаму. Спрыяць выхаванню цікавасці да асобы пісьменніка і яго твораў | С. 128–132, падрыхтаваць біяграфічныя даведкі пра Няваду і Ракуцьку |
| 24 | **Драматычны лёс ахвяр Першай і Другой сусветных войн.** Няздзейсненыя мары старэйшага пакалення (Нявады, Сымона Ракуцькі) пра шчасце | Прааналізаваць фактычны літаратурны матэрыял і даць супастаўляльную характарыстыку вобразам Нявады і Сымона Ракуцькі, адзначыць агульнае і адрознае ў іх лёсах, раскрыць перад вучнямі майстэрства аўтара ў стварэнні псіхалагічнага партрэта сваіх герояў. Развіваць уменне аргументаваць, матываваць, даказваць, карыстацца фактамі тэксту, характарызаваць вобразы, удасканальваць навыкі сістэматызацыі матэрыялу для характарыстыкі вобраза. Выхоўваць непрымірымае стаўленне да вайны як да вялікай пагрозы чалавецтву, да праяўлення жорсткасці і бесчалавечнасці | С. 133–136, пытанне 6 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 25 | **Глыбокі маральна-этычны сэнс тэмы «ўкрадзенага дзяцінства»** | Прааналізаваць вобразы малодшага пакалення рамана, на прыкладзе Волечкі Нявады і Кастуся Лукашэвіча паказаць, як у гады ваеннага ліхалецця людзі духоўна сталеюць, загартоўваюцца, становяцца мужнымі, дапамагчы вучням спасцігнуць глыбокі маральна-этычны сэнс тэмы «ўкрадзенага дзяцінства». Фарміраваць у вучняў уменне разумець духоўны свет герояў, удасканальваць навыкі складання плана характарыстыкі вобраза. Спрыяць выхаванню пачуцця адказнасці не толькі за сябе і свае ўчынкі, але і за іншых | С. 138, пытанні 3, 4 |
| 26 | **Выкрыццё фашызму як вялікай пагрозы чалавецтву. Антываенны пафас рамана.** Значэнне творчасці Кузьмы Чорнага | Высветліць ролю вобразаў графа Паліводскага і Густава Шрэдэра ў раскрыцці антычалавечай сутнасці вайны, правесці абагульняльную гутарку па рамане. Замацоўваць уменне даваць ацэнку вобразам, выяўляць ролю дэталі, пейзажу, бытавых замалёвак, моўнай і партрэтнай характарыстыкі ў творы. Спрыяць фарміраванню патрыятычных пачуццяў вучняў | Разважанне на адну з тэм: «Творчасць К. Чорнага як выклік фашызму», «У пошуках шчасця і будучыні: лёс герояў К. Чорнага» |
| 27 | **Аркадзь Куляшоў. Жыццёвы і творчы шлях паэта. Глыбіня лірычнага пачуцця ў лепшых творах даваеннага часу** («Мая Бесядзь»). Ваенная лірыка А. Куляшова (балада «Над брацкай магілай») | Пазнаёміць з асноўнымі фактамі жыццёвага шляху А. Куляшова, стварыць умовы для асэнсавання творчай спадчыны паэта, акрэсліць асаблівасці даваеннай і ваеннай творчасці, на прыкладзе верша «Над брацкай магілай» паказаць суровую праўду вайны і гуманізм у паказе народнага подзвігу. Удасканальваць навыкі аналізу паэтычных твораў; працягваць працу па фарміраванні ўмення разумець духоўны свет лірычнага героя, знаходзіць мастацкія сродкі, якія дапамагаюць раскрыць ідэю і праблему твора. Выхоўваць патрыятызм, жаданне стаць на абарону Радзімы | С. 143—149, вывучыць на памяць верш (на выбар настаўніка) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 28 | **Пашырэнне тэматыкі ў пасляваеннай лірыцы.** Зварот да тэм жыцця і смерці, кахання і вернасці, лёсу і абавязку («Спакойнага шчасця не зычу нікому...», «Я хаце абавязаны праціскаю...»). Развіццё і ўзбагачэнне класічных традыцый лірыкі | Разгледзець пасляваенную лірыку А. Куляшова, прасачыць, як у вершах услаўляецца чалавек, яго духоўныя каштоўнасці, бязмежнасць пазнання, дапамагчы вучням убачыць паэтычнае майстэрства А. Куляшова, паглыбіць звесткі вучняў пра лірычнага героя. Развіваць уменне вучняў разумець сэнс лірычных твораў і аналізаваць іх. Праз асэнсаванне вобраза лірычнага героя паэзіі А. Куляшова выхоўваць пазітыўнае стаўленне да жыцця як найвышэйшай каштоўнасці | С. 149—155, ахарактарызаваць лірычнага героя вершаў пасляваеннага часу |
| 29 | **Вершаваны цыкл «Маналог»: матывы памяці, вернасці, сяброўства** | Разгледзець вершаваны цыкл «Маналог», прасачыць, як у творы раскрываюцца маральна-этычныя пытанні, раскрыць характар лірычнага героя твора. Удасканальваць уменні вучняў даваць характарыстыку лірычнаму герою, вылучаць матывы паводзін і ўчынкаў. Садзейнічаць выхаванню вернасці ў сяброўстве | С. 154, пытанне 8 |
| 30 | **Максім Танк. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць.** Шырокі творчы дыяпазон ранняй паэзіі («Спатканне»). Адметнасць лірыкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны («Родная мова») | Выклікаць у вучняў цікавасць да жыцця і творчасці паэта М. Танка, пазнаёміць з фактамі, якія спрыялі развіццю яго таленту, паказаць дыяпазон яго ранняй паэзіі і раскрыць адметнасць лірыкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Прадоўжыць працу па фарміраванні ўмення знаходзіць мастацкія тропы, пры дапамозе якіх раскрываецца ідэя твора і малюецца вобраз лірычнага героя. Выхоўваць павагу да свайго народа і роднай мовы, гонар за яго мужнасць і гераізм | С. 159—162, вывучыць на памяць верш «Родная мова» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 31 | **Пашырэнне тэматыкі ў пасляваеннай паэзіі.** Увага да духоўнага свету чалавека, агульначалавечых каштоўнасцей («Каб ведалі», «Мой хлеб надзённы», «Завушніцы», «Ave Maria», «Працягласць дня і ночы») | Увесці вучняў у паэтычны свет пасляваеннай лірыкі М. Танка, вучыць вызначаць тэматыку і праблематыку паэтычнага твора, высвятляць ролю інверсіі, метафары, кантрасту, паглыбіць веды вучняў пра свабодны верш, асацыятыўны вобраз. Развіваць уменні і навыкі даваць самастойную ацэнку лірычным творам, стымуляваць крэатыўнасць вучняў. Садзейнічаць выхаванню імкнення да паўназначнага, мэтанакіраванага і гарманічнага жыцця | С. 162–166, аналіз аднаго з вершаў на выбар вучняў, прачытаць паэму «Люцыян Таполя» |
| 32 | **Паэма «Люцыян Таполя».** Праблема мастака і мастацтва | Выразна прачытаць паэму, даследаваць яе ідэйны і мастацкі бок, паказаць яе сувязь з фальклорам, раскрыць праблему мастака і мастацтва, дапамагчы вучням убачыць блізкасць героя паэмы М. Танка да купалаўскага гусляра. Удасканальваць навыкі аналізу паэтычнага твора, засяродзіўшы ўвагу на выкарыстанні сродкаў паэтызацыі і гратэску. Садзейнічаць выхаванню сілы духу, жыццястойкасці перад нягодамі | Падрыхтавацца да тэматычнага кантролю па тэме «Беларуская літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны» |
| **Беларуская літаратура пасляваеннага часу (да сярэдзіны 1960-х гадоў) (19 гадзін + 2 гадзіны на творчую работу)** | | | |
| 33<br>34 | **Беларуская літаратура пасляваеннага дзесяцігоддзя (1945–1955).**<br>**Беларуская літаратура ў гады абнаўлення грамадства (1956–1965)** | Правесці тэматычны кантроль па раздзеле «Беларуская літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны», даць характарыстыку літаратурнаму працэсу пасляваеннага дзесяцігоддзя, засяродзіўшы ўвагу на патрыятычным і жыццялюбным пафасе творчасці, які быў абумоўлены заканчэннем вайны, мірным будаўніцтвам, пазнаёміць са зменамі ў грамадскай атмасферы сярэдзіны 50-х гадоў, якія прывялі да ўзмацнення крытычнага пачатку ў лі- | С. 175–187, пытанні |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | таратурнай творчасці, адмаўленне ад схематызму, тэорыі бесканфліктнасці, выклікалі актыўны прыход у літаратуру новага пакалення пісьменнікаў, паўплывалі на вяртанне ў беларускую літаратуру класічных традыцый рэалістычнага мастацтва. Развіваць аналітычнае мысленне, навыкі складання канспекта, уменне карыстацца даведачна-інфармацыйнай літаратурай. Выхоўваць маўленчую культуру вучняў, пашыраць іх інтэлектуальную прастору | |
| 35 | **Янка Брыль. Жыццё і творчасць пісьменніка. Апавяданне «Memento mori»** | Зрабіць агляд жыццёвага і творчага шляху пісьменніка, дапамагчы вучням спасцігнуць глыбокі філасофскі змест апавядання, у працэсе аналізу твора раскрыць духоўны свет печніка, паказаць высакароднасць простага чалавека, яго маральную вартасць, асудзіць фашызм як антычалавечую існасць. Фарміраваць уменне аргументаваць, матываваць, даказваць свой пункт гледжання, карыстаючыся фактамі тэксту, характарызаваць вобразы. Выхоўваць чалавечую годнасць і адказнасць за свае ўчынкі | С. 188—194, прачытаць апавяданне «Галя» |
| 36 | **Апавяданне «Галя».** Праблема чалавечага шчасця і сэнсу жыцця | Правесці аналіз апавядання, вызначыць цэнтральную праблему твора і абмеркаваць яе з вучнямі, даць ацэнку паводзінам герояў. Развіваць навыкі мастацкага чытання, праблемнага аналізу празаічнага твора. Скіраваць думку вучняў да сённяшніх дзён, да норм маралі, узаемаадносін сучасных людзей, сэнсу жыцця | С. 194—197, 200, пытанні 2, 4 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 37 | **Пімен Панчанка. Жыццёвы і творчы шлях паэта. Патрыятычны пафас ваеннай паэзіі** П. Панчанкі («Краіна мая» і інш.) | Падчас знаёмства з найбольш яркімі старонкамі жыцця і творчасці паэта дапамагчы вучням асэнсаваць ідэйны змест вершаў ваеннага часу, паўтарыць звесткі пра віды лірыкі. Працягваць працу па фарміраванні ўмення разумець духоўны свет лірычнага героя, знаходзіць мастацкія сродкі, якія дапамагаюць раскрыць ідэю і праблему твора. Падвесці вучняў да сур'ёзных разваг над грамадскім абавязкам свайго пакалення | С. 202—208, вывучыць на памяць верш (на выбар) |
| 38 | **Роздум пра сэнс жыцця, гуманныя адносіны паміж людзьмі ў творах 60-х гадоў** («Родная мова» і інш.). **Пашырэнне тэматычнай, жанрава-стылёвай разнастайнасці лірыкі 70—80-х гадоў,** духоўная эвалюцыя лірычнага героя | Дапамагчы вучням асэнсаваць ідэйны змест вершаў пасляваеннага часу, даць паняцце «публіцыстычнасць у паэзіі», паказаць, як выяўляецца аўтарская пазіцыя ў творы, шляхам аналізу паэтычных твораў дапамагчы вучням раскрыць духоўны свет лірычнага героя вершаў П. Панчанкі, убачыць разнастайнасць рытміка-інтанацыйнага малюнка, ёмістасць паэтычных вобразаў, багацце сродкаў мастацкага выяўлення. Удасканальваць уменне аналізаваць паэтычны твор, вылучаць аўтарскую пазіцыю ў вершы і суадносіць яе са сваімі меркаваннямі. Садзейнічаць выхаванню пачуцця маральнай адказнасці за лёс Радзімы, міру, шчасця людзей | С. 208—211, вусны водгук на любімы верш П. Панчанкі |
| 39 | **Іван Мележ. Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Раман «Людзі на балоце»,** творчая гісторыя, тэматыка і праблематыка | Пазнаёміць з умовамі жыцця і фарміравання творчай індывідуальнасці І. Мележа, разгледзець творчую гісторыю рамана, яго тэматыку і праблематыку. Развіваць уменне фармуляваць пытанні па змесце і праблеме твора. Садзейнічаць паглыбленню літаратуразнаўчага вопыту вучняў, пашырэнню іх кругагляду | С. 218—223, цытаты для характарыстыкі Васіля і Ганны |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 40 | **Шматгранныя нацыянальныя характары ў рамане.** Майстэрства раскрыцця ўнутранага свету галоўных герояў Васіля Дзятла і Ганны Чарнушкі | Шляхам павобразнага аналізу раскрыць характары Васіля Дзятла і Ганны Чарнушкі, засяродзіўшы ўвагу на майстэрстве пісьменніка раскрываць унутраны свет сваіх герояў. Развіваць і замацоўваць уменне вызначаць элементы сюжэта твора, важныя для характарыстыкі герояў, параўноўваць герояў, характарызаваць іх на падставе партрэта, дзеянняў, учынкаў. Выхоўваць павагу да сям'і, да блізкіх, да людзей, сілу волі супрацьстаяць ганебным жыццёвым спакусам | С. 223–225, 232, пытанні 3, 4, на памяць урывак з рамана |
| 41 | **Нетрадыцыйны падыход аўтара да раскрыцця псіхалогіі заможных сялян** | Раскрыць перад вучнямі нетрадыцыйны падыход аўтара ў паказе псіхалогіі заможных сялян, адзначыць розныя адносіны да людзей, да працы, да будучыні ў старога Глушака і яго сыноў. Развіваць рэпрадуктыўнае, творчае і аналітычнае мысленне, выпрацоўваць навыкі калектыўнай работы. Паспрыяць выхаванню культуры ўзаемаадносін, адэкватнай самаацэнкі і ацэнкі чужых учынкаў | С. 225–227, 232, пытанні 7, 10 |
| 42 | **Чалавек і прырода ў рамане.** Псіхалагічнае майстэрства Мележа. Роля мовы герояў (палескага дыялекту) у раскрыцці індывідуальных характараў | Прааналізаваць майстэрства аўтара ў стварэнні псіхалагічнага партрэта сваіх герояў, паказаць ролю мовы ў раскрыцці індывідуальных характараў, правесці абагульняльную гутарку па рамане, падрыхтаваць вучняў да напісання кантрольнага сачынення. Развіваць чытацкія ўменні вучняў, іх мысленне і маўленне. Выхоўваць у рэчышчы народнай свядомасці і мудрага стаўлення да прыроды | С. 227–233, падрыхтавацца да класнага кантрольнага сачынення |
| 43<br>44 | **Класнае кантрольнае сачыненне** | Развіваць пісьмовае маўленне, лагічнае мысленне. Садзейнічаць развіццю творчага патэнцыялу вучняў, выхаванню літаратурна-лінгвістычнай кампетэнцыі асобы | Змест аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 45 | **Уладзімір Караткевіч. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка. Каларыт, атмасфера мінулай эпохі (80-я гады XIX ст.) у аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха»** | Пазнаёміць вучняў з жыццёвым і творчым шляхам пачынальніка гістарычнай прозы ў беларускай літаратуры У. Караткевіча, зацікавіць вучняў творам пісьменніка, выявіць непасрэдна чытацкія адносіны да падзей, апісаных у творы, і герояў твора, звярнуць увагу на спалучэнні ў творы канкрэтна-гістарычнага і рамантычнага. Развіваць гістарычнае мысленне вучняў, навыкі самастойнай ацэнкі твора. Выхоўваць цікавасць да гістарычнага мінулага сваёй Радзімы, уплываць на фарміраванне нацыянальнай свядомасці вучняў | С. 237–241, пытанне 3 |
| | <u>або</u><br>**Уладзімір Караткевіч. Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка. Аповесць «Чазенія»**. Праблематыка твора | Пазнаёміць вучняў з жыццёвым і творчым шляхам пачынальніка гістарычнай прозы ў беларускай літаратуры У. Караткевіча, зацікавіць вучняў творам пісьменніка, выявіць непасрэдна чытацкія адносіны да падзей, апісаных у творы, і герояў твора, шляхам пераказу па ланцужку аднавіць змест аповесці, вызначыць праблемы твора і правесці яго аналіз. Стварыць умовы для развіцця навыкаў мастацкага пераказу твора, навыкаў самастойнай яго ацэнкі. Выхоўваць мастацкі густ вучняў, уплываць на фарміраванне нацыянальнай свядомасці | С. 237–241, пытанне 3, скласці план характарыстыкі:<br>I варыянт – Северына Будрыса,<br>II варыянт – Гражыны |
| 46 | **Роздум аб прызначэнні чалавека на зямлі, аб лёсе беларускага народа, узаемасувязі розных гістарычных эпох. Вобразы Андрэя Беларэцкага, Андрэя Свеціловіча і Надзеі Яноўскай** | Прааналізаваць змест аповесці, спыніць увагу на пытанні сэнсу жыцця чалавека; ахарактарызаваць герояў па іх учынках, паводзінах, перажываннях, звяртаючы ўвагу на ўдалае выкарыстанне пісьменнікам такіх сродкаў стварэння мастацкага вобраза, як партрэт, выказванні, паводзіны, аўтарская характарыстыка. Удасканальваць навыкі аналізу празаічнага твора, развіваць уменні выяўляць асноўныя праблемы твора, навыкі выбарачнага пераказу. Уплываць на выхаванне патрыятычных пачуццяў вуч- | С. 244–247, скласці план характарыстыкі:<br>I варыянт – Андрэя Беларэцкага,<br>II варыянт – Андрэя Свеціловіча,<br>III варыянт – Надзеі Яноўскай;<br>прачытаць асобныя |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | абo | няў; пераканаць зместам аповесці, што каханне, дабро ўдасканальваюць душу, а зло, помслівасць, прагнасць нажывы яе разбураюць | раздзелы з рамана «Каласы пад сярпом тваім» |
| | **Вобразы Севярына Будрыса і Гражыны.** Сэнс назвы аповесці. Жанр і кампазіцыя твора | Правесці аналіз вобразаў Севярына Будрыса і Гражыны, паказаць мастацкую ролю прыроды, якая выступае ў аповесці і як герой, і як паказчык прагрэсу, вызначыць жанр і кампазіцыйную будову твора, растлумачыць сэнс назвы «Чазенія». Развіваць навыкі адбору матэрыялу для параўнальнай характарыстыкі герояў, спрыяць развіццю мыслення вучняў, іх умення вызначаць функцыі прыродаапісальных малюнкаў у творы. На прыкладзе герояў твора паказаць вучням трываласць дружбы, сілу жыцця і кахання, магутнасць дабра, чалавечнасці і праўды | С. 249—251, пытанне 4, прачытаць асобныя раздзелы з рамана «Каласы пад сярпом тваім» |
| 47 | **Гістарычная аснова рамана «Каласы пад сярпом тваім»** | Пазнаёміць з гісторыяй напісання твора, аднавіць падзеі, якія знайшлі мастацкае ўвасабленне ў рамане, даць паняцце «гістарычны раман», патлумачыць абумоўленасць тэмы твора, акрэсліць праблематыку, увесці вучняў у свет герояў У. Караткевіча. Развіваць і ўдасканальваць навыкі аналізу твора. Стварыць умовы для выхавання цікавасці да гісторыі Беларусі і яе яркіх прадстаўнікоў | С. 252—255, пераказ эпізодаў, у якіх найбольш ярка паказаны Даніла Вежа-Загорскі, Кроер, Хаданскія |
| 48 | **Прадстаўнікі дваранства ў рамане.** Праўдзівасць адлюстравання чалавечых характараў | Прааналізаваць вобразы прадстаўнікоў дваранства ў рамане (Даніла Вежа-Загорскі, Хаданскія, Кроер), дапамагчы вучням спасцігнуць аўтарскую пазіцыю ў дачыненні да праблемы сэнсу жыцця. Удасканальваць навыкі пераказу мастацкага тэксту, уменне даваць абгрунтаваны адказ. Аказваць уплыў на выхаванне ўласнага духоўнага вопыту вучняў | С. 255—258, тэзісы для характарыстыкі Алеся Загорскага |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 49 | **Духоўны воблік галоўнага героя рамана Алеся Загорскага** | Разгледзець вобраз Алеся Загорскага — галоўнага героя рамана, дапамагчы вучням спасцігнуць яго духоўны воблік, паглыбіць паняцце пра рамантычнае і рэалістычнае адлюстраванне жыцця. Развіваць навыкі складання плана характарыстыкі літаратурнага героя, аналізу прыёмаў стварэння вобраза. Садзейнічаць выхаванню жыццёвых ідэалаў, грамадзянскіх пачуццяў вучняў | С. 261—270, пытанне 3, паўтарыць звесткі пра баладу і легенду |
| 50 | **Месца і роля лірычных адступленняў і пейзажных малюнкаў. Вобразная сімволіка.** Сувязь рамана «Каласы пад сярпом тваім» з паэтыкай народных балад і легенд | Прааналізаваць вобразную сімволіку рамана, месца і ролю лірычных адступленняў і пейзажных малюнкаў, дапамагчы вучням убачыць сувязь твора з паэтыкай народных балад і легенд, падвесці вынік працы над раманам «Каласы пад сярпом тваім». Спрыяць развіццю мыслення вучняў, іх умення вызначаць функцыю лірычных адступленняў і пейзажных замалёвак. Уплываць на выхаванне нацыянальнай свядомасці вучняў | С. 270, пытанне 6, выбраць урывак з твора для яго пераказу і аналізу |
| 51 | **Андрэй Макаёнак. Жыццёвы і творчы шлях драматурга. Жанравая адметнасць п'есы «Зацюканы апостал»**<br>або<br>**Андрэй Макаёнак. Жыццёвы і творчы шлях драматурга.** | Пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам беларускага драматурга А. Макаёнка, з жанравай адметнасцю п'есы «Зацюканы апостал», правесці дыягнастычную гутарку па змесце, сфармуляваць асноўныя праблемы твора. Развіваць крытычнае мысленне, уменне вызначаць жанравыя асаблівасці твора, суадносіць вядомыя факты з новымі. Выхоўваць літаратурную дасведчанасць вучняў<br>Пазнаёміць вучняў з жыццёвым і творчым шляхам беларускага драматурга А. Макаёнка, з гісторыяй стварэння трагікамедыі «Пагарэльцы», шляхам аналізу кампазіцыі высвятліць ролю пралога, эпілога, аўтарскіх рэмарак | С. 272—279, цытаты для характарыстыкі персанажаў<br>С. 272—277, 285—286, цытаты для характарыстыкі персанажаў |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | **Творчая гісторыя трагікамедыі «Пагарэльцы», адметнасць кампазіцыі** | у разгортванні сюжэта, правесці дыягнастычную гутарку па змесце, сфармуляваць асноўныя праблемы твора. Развіваць мысленне вучняў, іх уяўленне аб адметнасцях кампазіцыі драматычнага твора. Выхоўваць літаратурную дасведчанасць вучняў | |
| 52 | **Характарыстыка персанажаў п'есы «Зацюканы апостал»**, іх сімвалічнасць і падкрэсленая абагульненасць | Высветліць ідэйную ролю кожнага персанажа п'есы, адзначыўшы іх сімвалічнасць і падкрэсленую абагульненасць, раскрыць майстэрства А. Макаёнка ў абмалёўцы характараў. Удасканальваць уменне працаваць з драматычным творам, выбіраць патрэбны для характарыстыкі герояў матэрыял, развіваць навыкі чытання па ролях, аналізу вобраза. Садзейнічаць выхаванню адэкватнай самаацэнкі і ацэнкі чужых учынкаў | С. 279–284, адзначыць прыёмы раскрыцця характару герояў п'есы |
| | або<br>**Характарыстыка персанажаў п'есы «Пагарэльцы»** | Прааналізаваўшы вобразы трагікамедыі, засяродзіць увагу на спалучэнні ў псіхалагічнай абмалёўцы прыстасавальнікаў, кар'ерыстаў, цынікаў, прайдзісветаў і дэмагогаў нізкага з узвышаным, трагічнага з камічным. Удасканальваць уменне працаваць з драматычным творам, выбіраць патрэбны для характарыстыкі герояў матэрыял, развіваць навыкі чытання па ролях, аналізу вобраза. Выклікаць у вучняў роздум пра сэнс асабістага існавання на зямлі, выхоўваць у рэчышчы народнай свядомасці і мудрасці | С. 286–290, адзначыць прыёмы раскрыцця характару герояў п'есы |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 53 | **Маральна-этычны змест п'есы «Зацюканы апостал»**, сцвярджэнне аўтарам духоўных агульначалавечых каштоўнасцей | Шляхам аналізу маральна-этычнага зместу п'есы сфарміраваць уяўленне аб трагікамедыі як філасофскім творы, які ўздымае агульначалавечыя праблемы вайны і міру, адносін у грамадстве і сям'і, дапамагчы вучням асэнсаваць пазіцыю аўтара ў адносінах да ўзнятых драматургам праблем. Развіваць рэпрадуктыўнае, творчае і аналітычнае мысленне, выпрацоўваць навыкі калектыўнай работы. Паспрыяць выхаванню павагі да сям'і, да блізкіх, да людзей, сілы волі супрацьстаяць ганебным жыццёвым спакусам | |
| | або<br>**Майстэрства драматурга ў стварэнні вобразаў-тыпаў.** Алегарычнасць, свежасць, вобразнасць мовы п'есы | Правесці абагульняючую гутарку па ідэйным змесце п'есы, раскрыць майстэрства драматурга ў стварэнні вобразаў-тыпаў, дапамагчы вучням асэнсаваць моўнае багацце трагікамедыі «Пагарэльцы», праінсцэніраваць найбольш цікавыя, на думку вучняў, эпізоды твора. Развіваць крэатыўнасць вучняў, звязнае маўленне. Паспрыяць выхаванню культуры ўзаемаадносін і артыстычных здольнасцей | |

## Беларуская літаратура
## 11 клас

(53 гадзіны на год, з іх на творчыя работы — 4 гадзіны)

Размеркаванне вучэбнага матэрыялу прыводзіцца ў адпаведнасці са зместам і структурай вучэбнага дапаможніка: Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 11-га кл. / пад рэд. З. П. Мельнікавай, Г. М. Ішчанкі. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009.

| Нумар урока і дата правядзення | Тэма раздзела, урока | Мэты і задачы ўрока | Матэрыял вучэбна-метадычнага дапаможніка, дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **Беларуская літаратура перыяду 1966—1985 гадоў (30 гадзін)** | | | |
| 1 | **Беларуская літаратура перыяду 1966—1985 гадоў** (агляд)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Пашырэнне сферы мастацкага даследавання рэчаіснасці. Жанравыя і тэматычныя пошукі літаратуры, паглыбленне яе чалавеказнаўчага і гуманістычнага зместу. Узмацненне аналітызму ў даследаванні мінулага і сучаснасці.<br>Узбагачэнне светабачання беларускіх паэтаў, іх жанрава-стылёвыя пошукі (Я. Янішчыц, Т. Бондар, Р. Баравікова, А. Разанаў і інш.). Грамадзянскасць і маральна-этычная скіраванасць пафасу | Даць агульную характарыстыку грамадска-палітычнага, культурнага і літаратурнага жыцця Беларусі перыяду 1966—1985 гг., садзейнічаць пашырэнню ведаў пра асаблівасці развіцця літаратуры ў гэты час; стварыць зместавыя і арганізацыйныя ўмовы для фарміравання ў вучняў умення знаходзіць ідэйна-стылёвыя асаблівасці ў беларускіх творах гэтага часу; забяспечыць развіццё ўмення вылучаць | 1) Беларуская літаратура : дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі [і інш.] ; пад рэд. А. І. Бельскага, М. А. Тычыны. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009.<br>2) Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя : у 4 т. — Мінск, 1999—2003. — Т. 3—4. Кн. 1—4.<br>3) Гісторыя беларускай літаратуры : XX ст. : 20—50-я гг. / пад агул. рэд. М. А. Лазарука, |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | паэтычнай творчасці. Павышаная цікавасць да філасофскіх праблем, складаных пытанняў чалавечага жыцця.<br>Праблематыка беларускай прозы (І. Шамякін, Я. Брыль, В. Адамчык, В. Карамазаў, Л. Левановіч, Я. Сіпакоў, А. Жук, В. Казько, Г. Далідовіч, Г. Марчук, В. Гардзей, В. Гігевіч і інш.).<br>Здабыткі ў жанрах драмы і камедыі (п'есы К. Крапівы, А. Макаёнка, У. Караткевіча, М. Матукоўскага, А. Петрашкевіча, А. Дзялендзіка, Г. Марчука, А. Дударава і інш.). Праблемнасць, канфліктная аснова твораў беларускіх драматургаў | у аповедзе настаўніка асноўнае, канспектаваць згодна з прапанаваным планам; садзейнічаць пашырэнню гістарычнай дасведчанасці вучняў, выхаванню пачуцця гонару за сваю багатую гісторыка-культурную спадчыну | А. А. Семяновіча. — 2-е выд. — Мінск, 2000<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць адказы на пытанні вучэбнага дапаможніка (с. 12, пытанні 4–8) |
| | **Іван Шамякін (6 гадзін)** | | |
| 2 | **Жыццёвы і творчы шлях І. Шамякіна. Аповесць «Гандлярка і паэт»[1]: гісторыя напісання твора, праблематыка, сюжэт**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. «Гандлярка і паэт». Гісторыя напісання аповесці, праблематыка, сюжэт. Тэма трагічнага лёсу жанчыны на вайне | Пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам пісьменніка, гісторыяй напісання аповесці «Гандлярка і паэт», праблематыкай і сюжэтам; далучыць вучняў да свядомага ўспрымання матэрыялу пра жыццё і творчасць І. Шамякіна, паспрыяць вучнёўскаму разуменню ідэйнага зместу апо- | 1) Бельскі, А. Каханне, маладосць і трывогі сэрца // Шамякін, І. Трывожнае шчасце : аповесці. — Мінск, 2008. — С. 5–9.<br>2) Бельскі, А. Жыццё і творчасць І. Шамякіна // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 7. — С. 35.<br>3) Дубіна, А. С. Сістэма ўрокаў па аповесці «Гандлярка і паэт» |

[1] У адпаведнасці з праграмай настаўнік мае права замест аповесці «Гандлярка і паэт» пазнаёміць вучняў з аповесцю «Непаўторная вясна».

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | весці, выклікаць цікавасць да аповесці, а таксама да пісьменніка, грамадзяніна, патрыёта | I. Шамякіна // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 1. – С. 29.<br>4) Тычына, М. Усё чалавечае. Развагі пра творчасць I. Шамякіна // Роднае слова. – 2001. – № 1. – С. 8–14<br>**Дамашняе заданне.**<br>I. Падрыхтаваць невялікія паведамленні:<br>1. Жыццёвы шлях I. Шамякіна.<br>2. Творчы шлях I. Шамякіна.<br>II. Перачытаць першыя дзве часткі аповесці «Гандлярка і паэт».<br>III. Знайсці ў аповесці эпізоды, якія раскрываюць вобраз Вольгі Лянovіч (індывідуальнае заданне) |
| | або<br>**Жыццёвы і творчы шлях I. Шамякіна. Аповесць «Непаўторная вясна»: гісторыя напісання твора, праблематыка, сюжэт**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Пенталогія «Трывожнае шчасце» – кніга аповесцей пра даваеннае пакаленне моладзі, якое прайшло праз выпраба- | Пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам пісьменніка, гісторыяй напісання аповесці «Непаўторная вясна». Разгледзець асноўную праблему, узнятую ў творы, арганізаваць асэнсаванае ўспрыманне аўтарскай пазіцыі, развіваць у вучняў уменне разумець актуальнасць | 1) Бурак, А. М. Урок – педагагічная майстэрня па аповесці I. Шамякіна «Непаўторная вясна» // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 1. – С. 36.<br>2) Давыдава, Д. Урокі па аповесці Івана Шамякіна «Непаўторная вясна» // Роднае слова. – 2003. – № 1. – С. 54 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | ванні вайны. Творчая задума кнігі. Аўтабіяграфічныя моманты ў «Трывожным шчасці» | і агульначалавечае значэнне пастаўленых пісьменнікам праблем; пераконваць на матэрыяле аповесці, што кожны чалавек мае права на шчасце; ствараць умовы для ўзбагачэння эмацыянальнай сферы вучняў, развіцця іх здольнасцяў да камунікацыі і маўленчай культуры ў цэлым | **Дамашняе заданне.**<br>*І група.* Падрыхтаваць вуснае паведамленне-разважанне «Простае шчасце людское...».<br>*ІІ група.* Падрыхтаваць пераказ найбольш цікавага эпізоду аповесці |
| 3 | **Вобраз Вольгі Лянові: каханне ў лёсе гераіні** (аповесць «Гандлярка і паэт»)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Вобраз Вольгі Лянові. Каханне ў лёсе гераіні. Майстэрства пісьменніка ў стварэнні сюжэта, псіхалагічнай абмалёўцы характараў | Стварыць умовы для развіцця ўменняў даваць агульную характарыстыку галоўным героям аповесці, тлумачыць учынкі і разважанні герояў, вызначаць іх узаемаадносіны, садзейнічаць раскрыццю майстэрства пісьменніка ў стварэнні сюжэта і псіхалагічнай абмалёўцы характараў; выяўляць адносіны вучняў да твора і ўзнятых у ім праблем; садзейнічаць выхаванню культуры інтымных пачуццяў, цікавасці да твора | 1) Локун, В. Кругі жыцця – кругі літаратуры / В. Локун. – Мінск, 2002.<br>2) Навумчык, М. І. Вывучэнне аповесці І. Шамякіна «Гандлярка і паэт» (тэставае заданне, ХІ клас) // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 7. – С. 45<br>**Дамашняе заданне.**<br>1. Падрыхтаваць невялікае паведамленне «Каханне ў лёсе Вольгі Лянові».<br>2. Знайсці ў аповесці эпізоды, якія раскрываюць вобраз Алеся Шпака (індывідуальнае заданне) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 4 | **Вобраз Алеся Шпака, яго роля ў духоўным узвышэнні Вольгі Ляновіч** (аповесць «Гандлярка і паэт»)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Вобраз Алеся Шпака, яго роля ў духоўным узвышэнні Вольгі Ляновіч. Фарміраванне характару Алеся Гапанюка. Праблема маральнага выбару | Садзейнічаць развіццю ўменняў даваць агульную характарыстыку галоўным героям аповесці, тлумачыць учынкі і разважанні герояў, вызначаць іх узаемаадносіны; дапамагчы вучням усвядоміць думку, што канцэнтрацыя маральнай праблематыкі ў аповесці – гэта вынік імкнення пісьменніка выказаць сваю ўласную грамадзянскую пазіцыю, прымусіць і чытача задумацца над асэнсаваннем уяўных і сапраўдных каштоўнасцей у жыцці | **Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць выбарачны пераказ па тэмах:<br>1. Подзвіг Вольгі Ляновіч.<br>2. Удзел Вольгі Ляновіч і Алеся Шпака ў падпольнай барацьбе.<br>3. Узаемаадносіны Вольгі Ляновіч з Алесем Шпаком.<br>4. Першая сустрэча Ляновічыхі з немцамі |
| | <u>або</u><br>**Аповесць «Непаўторная вясна» – твор пра юнацтва і каханне**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Пятро Шапятовіч і Саша Траянава – галоўныя героі пенталогіі. Адлюстраванне даваеннага жыцця моладзі ў аповесці «Непаўторная вясна». Духоўны свет Пятра і Сашы, іх узаемаадносіны. Паэзія кахання і прыгожых чалавечых пачуццяў. Эмацыянальна-псіхалагічная змястоўнасць твора. Лірычны характар аўтарскага пісьма | Дапамагчы спасцігнуць філасофскі змест твора, вызначыць яго ідэйную накіраванасць, выхоўваць у вучняў маральна-этычныя пачуцці; стварыць умовы для развіцця лагічнага, творчага мыслення праз выкарыстанне абагульняльных прыёмаў разумовай дзейнасці, садзейнічаць узбагачэнню духоўнасці вучняў, паказаць высакароднасць пачуццяў кахання | Вікторчык, Н. С. Аповесць «Непаўторная вясна» – твор пра юнацтва і каханне // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 1. – С. 39<br>**Дамашняе заданне.**<br>Напісаць сачыненне-мініяцюру «Кожны з нас шчаслівы, калі...» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 5 | **Раман «Сэрца на далоні»: праблематыка, канфлікт, адметнасць кампазіцыі**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Праблематыка рамана «Сэрца на далоні». Вастрыня канфлікту. Маральна-этычная сутнасць аўтарскай пазіцыі. Рэтраспектыўны зварот да падзей вайны | Стварыць умовы для інтэлектуальнага і эмацыянальнага ўспрымання рамана І. Шамякіна «Сэрца на далоні», выявіць асноўныя сюжэтныя лініі рамана, засяродзіць увагу на кампазіцыі твора, вызначэнні сімвалічнай назвы рамана; садзейнічаць выхаванню чытацкай асобы | 1) Анцалевіч, А., Забаронак, В. «Людзі – гэта самае каштоўнае...». Маральная праблематыка рамана І. Шамякіна «Сэрца на далоні» // Роднае слова. – 2000. – № 7. – С. 50–58.<br>2) Бельскі, А. І. Чалавек – час – мараль у прозе І. Шамякіна // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 1. – С. 3–8; № 3. – С. 22–28.<br>3) Бельскі, А. І. Раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні» // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 8. – С. 14.<br>4) Шуцьева, Ж. Іван Шамякін – чалавек вялікай душы і таленту : Урок па рамане «Сэрца на далоні» з выкарыстаннем інфармацыйных тэхналогій // Роднае слова. – 2009. – № 10. – С. 73<br>**Дамашняе заданне.**<br>Узнавіць змест рамана І. Шамякіна «Сэрца на далоні» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 6 | **Вобразная сістэма рамана «Сэрца на далоні»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Сутыкненне праўды і дэмагогіі ў ацэнках дзейнасці падпольшчыкаў. Роля кар'ерыста Гукана, які хавае праўду аб актыўнай падпольнай дзейнасці доктара Савіча. Прынцыповасць і рашучасць Кірылы Шыковіча ў выкрыцці Гукана. Партызанскае мінулае Яраша. Вобраз Зосі Савіч, яе жыццёвы лёс | Развіваць уменні аналізаваць матэрыял твора, фармуляваць вывады, устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі, параўноўваць галоўных герояў твора, выяўляць у іх агульнае і рознае ў разуменні сэнсу жыцця, аргументаваць свае ацэнкі, меркаванні тэкстам, успрымаць вобразы герояў у святле аўтарскай ацэнкі; садзейнічаць выхаванню ў вучняў асноўных каштоўнасных арыенціраў | Мірошнікава, Т. У. Карткі з індывідуальнымі заданнямі па рамане І. Шамякіна «Сэрца на далоні» // Беларуская мова і літаратура. – 2008. – № 9. – С. 33<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленне:<br>*I група*. Роля кар'ерыста Гукана, які хавае праўду аб актыўнай падпольнай дзейнасці доктара Савіча.<br>*II група*. Прынцыповасць і рашучасць Кірылы Шыковіча ў выкрыцці Гукана.<br>*III група*. Партызанскае мінулае Яраша.<br>*IV група*. Вобраз Зосі Савіч, яе жыццёвы лёс |
| 7 | **Маладое пакаленне ў рамане «Сэрца на далоні». Сімволіка назвы твора**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Маладое пакаленне ў рамане. Няўстойлівасць жыццёвай пазіцыі Славіка Шыковіча. Складаны шлях духоўнага станаўлення Тараса. Пачатак самастойнага жыцця Славіка і Тараса – напамінак старэйшаму пакаленню аб | Садзейнічаць развіццю ўменняў даваць агульную характарыстыку галоўным героям, тлумачыць іх учынкі і разважанні, выяўляць у іх агульнае і рознае ў разуменні сэнсу жыцця, аргументаваць свае ацэнкі, меркаванні тэкстам, успрымаць вобразы герояў у святле аўтарскай пазіцыі, правесці | 1) Кендыш, Н. А. Маладое пакаленне ў рамане І. Шамякіна «Сэрца на далоні» // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 1. – С. 9–11.<br>2) Навумчык, М. І. Вывучэнне аповесці І. Шамякіна «Сэрца на далоні» (тэставае заданне, XI клас) // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 8. – С. 18 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | рэальнай магчымасці ўзнікнення праблемы бацькоў і дзяцей, неабходнасці выхавання новага пакалення. Сімволіка назвы твора | назіранні за стылёвымі асаблівасцямі пісьменніка; садзейнічаць выхаванню ў вучняў грамадзянскай пазіцыі | **Дамашняе заданне.**<br>I. Падрыхтаваць разгорнутыя паведамленні:<br>1. Праблема чалавечых узаемаадносін.<br>2. Праблема ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей.<br>II. Прачытаць аповесць В. Быкава «Сотнікаў» |
| **Васіль Быкаў (5 гадзін)** | | | |
| 8 | **Жыццёвы і творчы шлях В. Быкава**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Біяграфія і агляд творчасці В. Быкава. Асоба пісьменніка | Стварыць умовы для паўтарэння і сістэматызацыі ведаў пра асноўныя этапы жыцця і творчасці В. Быкава, засяродзіць увагу на адметнасці творчага аблічча пісьменніка, падрыхтаваць клас інтэлектуальна і эмацыянальна да ўспрымання аповесці «Сотнікаў», садзейнічаць развіццю ў вучняў уменняў самастойнай працы з друкаванымі навукова-папулярнымі крыніцамі; зацікавіць вучняў неардынарнай асобай празаіка і яго | Барысевіч, Н. І. Асаблівасці вывучэння творчасці В. Быкава ў школе // Беларуская мова і літаратура. – 2008. – № 7. – С. 12<br>**Дамашняе заданне.**<br>I. З усёй вядомай інфармацыі пра Быкава-пісьменніка і чалавека выбраць толькі адзін факт, пра які трэба напісаць адным абзацам свайму замежнаму сябру.<br>II. Зрабіць тэзісы артыкула з вучэбнага дапаможніка (с. 49–59), каб яны датычыліся толькі адметнасцей твораў В. Быкава |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | шматграннай творчай дзейнасцю, паспрыяць выхаванню пачуцця нацыянальнай самасвядомасці | |
| 9 | **Праблематыка аповесці «Сотнікаў». Чалавек перад знішчальнай сілай бесчалавечных абставін**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Праблематыка аповесці. Чалавек перад знішчальнай сілай бесчалавечных абставін. Вобразы Сотнікава і Рыбака ў творы, глыбокі псіхалагізм у іх распрацоўцы. Уменне Сотнікава змагацца да канца ў любых абставінах; вернасць перакананням. Трагічны фінал Сотнікава. Вобраз Рыбака. Здрадніцтва дзеля захавання свайго жыцця. Духоўная смерць Рыбака. Персанажы другога плана ў аповесці (стараста, Дземчык, Бася), іх мужнасць. Выкрыццё паліцэйскіх — прыслужнікаў немцаў — у творы (Партноў, Стась Гаманюк, Будзіла). Мастацкая дасканаласць твора. Яго сюжэт і кампазіцыя. Пейзаж у аповесці. Роля мастацкай дэталі ў абмалёўцы герояў і падзей | Паспрыяць вучнёўскаму разуменню філасофскага зместу аповесці, асаблівасці сюжэта і кампазіцыі, выявіць адносіны вучняў да твора і ўзнятых у ім праблем; завастрыць увагу на двух маральных момантах: што такое чалавек перад знішчальнай сілай бесчалавечных абставін; на што ён здольны, калі магчымасці абараніць жыццё вычарпаны ім да канца і прадухіліць смерць немагчыма; падвесці вучняў да асэнсавання быкаўскай ісціны: «Ад кожнага залежыць усё!» | 1) Бугаёў, Д. Я. Вывучэнне творчасці Васіля Быкава ў школе / Д. Я. Бугаёў, М. У. Верціхоўская, В. У. Верціхоўская. – Мінск, 2005.<br>2) Навумчык, М. І. Вывучэнне аповесці В. Быкава «Сотнікаў» (тэставае заданне ў XI класе) // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 10. – С. 25<br>**Дамашняе заданне.**<br>I. Падрыхтаваць адказы на пытанні вучэбнага дапаможніка (с. 69).<br>II. Узнавіць змест аповесці «Знак бяды» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| 10 | **Аповесць «Знак бяды». Асаблівасці кампазіцыі твора**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Актуальнасць маральна-філасофскай праблематыкі аповесці. Вастрыня трагедыйнага канфлікту. Глыбокі псіхалагізм аповесці. Зварот аўтара да эпізодаў даваеннага жыцця з мэтай больш глыбокага раскрыцця характараў | Паспрыяць вучнёўскаму разуменню філасофскага зместу аповесці, асэнсавання яе наватарства і месца ў творчай спадчыне В. Быкава; дапамагчы вучням выявіць аўтарскую ацэнку падзей і з'яў, апісаных у аповесці; даследаваць, як у творы вырашаецца праблема маральнага выбару паміж подзвігам і здрадніцтвам; развіваць у вучняў уменне параўноўваць герояў, выяўляць у іх агульнае і рознае ў разуменні сэнсу жыцця, аргументаваць свае ацэнкі, меркаванні тэкстам, успрымаць вобразы герояў у святле аўтарскай пазіцыі, правесці назіранні за стылёвымі асаблівасцямі пісьменніка; садзейнічаць выхаванню ў вучняў актыўнай грамадзянскай пазіцыі | Дзеравяга, Т. У. Вывучэнне аповесці В. Быкава «Знак бяды» (праблемнае навучанне) // Беларуская мова і літаратура. – 2008. – № 7. – С. 18<br>**Дамашняе заданне.**<br>Зрабіць тэзісны план артыкула з вучэбнага дапаможніка:<br>Даваеннае жыццё ў аповесці (с. 73–76)<br>або<br>Мастацкая сімволіка твора (с. 76–77) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 11 | **«Свае» і «чужыя»: вобразы здраднікаў і чужынцаў у аповесці «Знак бяды»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Выкрыццё жорсткасці, бесчалавечнасці фашызму. Паказ прыслужнікаў акупацыйнага рэжыму. Прычыны маральнай дэградацыі Гужа, Каландзёнка, Недасекі. Санкцыянаванае зло ў аповесці. Мастацкая сімволіка твора | | Цімашкова, К. Р. Псіхалагічнае даследаванне па аповесці В. Быкава «Знак бяды» // Беларуская мова і літаратура. – 2000. – № 3. – С. 71–81<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленні:<br>1. «Свае» і «чужыя» ў аповесці В. Быкава.<br>2. Выяўленне сапраўднай сутнасці чалавека ў аповесці «Знак бяды» |
| 12 | **Шлях да подзвігу Петрака і Сцепаніды. Мастацкая сімволіка твора**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Маштабнасць характараў галоўных герояў – Петрака і Сцепаніды. Жыццёвая трываласць і маральная мужнасць Багацькаў. Знакі бяды ў аповесці. Экранізацыя аповесці «Знак бяды» (рэжысёр М. Пташук). Значэнне творчасці Быкава для развіцця беларускай літаратуры | | **Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленне «Праблема гераізму і подзвігу, яе вырашэнне ў аповесці "Знак бяды"» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Урокі развіцця маўлення (2 гадзіны)** | | | |
| 13<br>14 | *Кантрольнае сачыненне па творчасці В. Быкава.* Тэмы: «Праблема гераізму і подзвігу ў беларускай літаратуры», «Праблема здрадніцтва ў аповесці В. Быкава "Знак бяды"», «Гераічнае і трагічнае ў аповесці», «Трагедыя "вялікага пералому" ў асэнсаванні В. Быкава» і інш. | | |
| **Эрнест Хемінгуэй (1 гадзіна)** | | | |
| 15 | **Звесткі аб жыцці і творчасці Э. Хемінгуэя. Праблематыка аповесці «Стары і мора»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. Праблемы жыцця і смерці, прыроды і чалавека, пераемнасці пакаленняў.<br>Галоўны герой аповесці рыбак Санцьяга — чалавек, які не здаецца перад цяжкімі выпрабаваннямі жыцця. Яго аптымізм, высокае пачуццё чалавечай годнасці. Лейтматыў твора. Падтэкст у творы | Раскрыць арыгінальнасць і непаўторнасць манеры пісьма Э. Хемінгуэя, своеасаблівасць яго мастацкага стылю, майстэрства стварэння рэалістычных характараў; развіваць уменне характарызаваць героя на аснове яго партрэта, аўтарскай характарыстыкі, навучыць вучняў разумець сапраўдныя матывы ўчынкаў персанажаў | 1) Герцык, А. Літаратура народаў свету ў школе / А. Герцык. – Мінск, 2007.<br>2) Лявонава, Е. А. Вывучэнне творчасці Эрнеста Хемінгуэя ў XI класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 2009. – № 7. – С. 30<br>**Дамашняе заданне.**<br>Вуснае выказванне на тэму «Чалавека можна знішчыць, але яго нельга перамагчы» (паводле аповесці Э. Хемінгуэя «Стары і мора») |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | **Міхась Стральцоў (2 гадзіны)** | | |
| 16 | **Звесткі аб жыцці і творчасці М. Стральцова. Ідэйна-мастацкая своеасаблівасць апавядання «Сена на асфальце»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. «Сена на асфальце». Эцюды-ўспаміны пра маладосць, каханне, жыццёвыя праблемы і клопаты. Вобраз аўтара-апавядальніка, яго «самая патаемная і самая душэўная думка» — прымірыць горад і вёску. Прырода ў творы. Глыбокі лірызм апавядання. Адметнасць кампазіцыі | Выклікаць цікавасць да жыцця і творчасці М. Стральцова, пазнаёміць з фактамі, якія спрыялі развіццю яго таленту; садзейнічаць фарміраванню ў вучняў умення ўспрымаць разгорнутае маналагічнае маўленне, а таксама рабіць паметкі па яго ходу, высветліць, у якой меры сфарміраваны ў іх уменні самастойнага аналізу апавядання па прапанаванай памятцы-алгарытме; садзейнічаць узбагачэнню духоўнага свету вучняў | Шамякіна, Т. І. Творчасць Міхася Стральцова ў XI класе // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 6. — С. 14<br>**Дамашняе заданне.**<br>Вывучыць на памяць урывак з апавядання «Сена на асфальце» (на выбар настаўніка) |
| 17 | **Глыбокі псіхалагізм у паказе характараў герояў апавядання «На чацвёртым годзе вайны»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>«На чацвёртым годзе вайны». Гора і нястачы, прынесеныя ў сялянскую сям'ю вайной, якую кожны з сямейнікаў перажывае па-свойму.<br>Вобразы старой маці, нявесткі Марусі і яе маленькага сына. Заўчаснае сталенне | Абудзіць у вучняў успамін аб ахвярах вайны, выхоўваць сустраканне... | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | хлопчыка, яго рашучае жаданне дапамагчы маці і бабулі, узяць на сябе адказнасць за лёс сям'і. Глыбокі псіхалагізм у паказе характараў | характараў герояў; паглыбіць паняцце пра ўнутраны маналог; садзейнічаць выхаванню ў вучняў асноўных каштоўнасных арыенціраў | |
| **Ніл Гілевіч. Вершы: «Ах, якая над Гайнай купальская ноч!..», «Святочны, старажытны дух каляды...», «Паклон табе, мой беларускі краю!..»; раман у вершах «Родныя дзеці»** (ва ўрыўках) **(2 гадзіны)** | | | |
| 18 | **Жыццёвы і творчы шлях Н. Гілевіча. Шырокі тэматычны змест паэзіі**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Жыццёвы і творчы шлях паэта. Шырокі тэматычны змест паэзіі. Любоў да Бацькаўшчыны, клопат пра яе лёс, шанаванне роднай мовы, захаванне культурнай спадчыны. Лірыка прыроды, дружбы, кахання. Глыбокі лірызм, песеннасць вершаў, фальклорныя матывы ў творчасці паэта | Стварыць умовы для пашырэння ведаў пра асноўныя этапы жыцця і творчага шляху Н. Гілевіча — перакладчыка, публіцыста, паказаць адметнасць творчага шляху, выявіць тэматычнае багацце яго паэтычнай спадчыны: пазнаёміцца з вершамі «Ах, якая над Гайнай купальская ноч!..», «Святочны, старажытны дух каляды...», «Паклон табе, мой беларускі краю!..», дапамагчы вучням вызначыць іх тэматыку, даць характарыстыку лірычнаму герою; выклікаць захапленне асобай і творчасцю Н. Гілевіча, садзейнічаць выхаванню нацыянальнай самасвядомасці | Беларуская літаратура : дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі [і інш.] ; пад рэд. А. І. Бельскага, М. А. Тычыны. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць вуснае выказванне на тэму «Матывы і вобразы паэзіі Ніла Гілевіча» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 19 | **«Родныя дзеці» як узор рамана ў вершах**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Класічныя традыцыі і наватарства ў галіне паэтыкі. «Родныя дзеці» як узор рамана ў вершах | Садзейнічаць стварэнню ўяўлення пра раман у вершах як жанр літаратуры; засяродзіць увагу на кампазіцыі твора; стварыць умовы для развіцця ўмення характарызаваць галоўнага героя Сцяпана Вячорку на аснове яго партрэта, аўтарскай характарыстыкі; звярнуць увагу на лірыка-публіцыстычны характар твора, моўнае багацце рамана; садзейнічаць узбагачэнню духоўнага свету вучняў | **Дамашняе заданне.**<br>Вывучыць на памяць верш або ўрывак з рамана «Родныя дзеці» (на выбар настаўніка) |
| **Іван Чыгрынаў (2 гадзіны)** | | | |
| 20 | **Звесткі аб жыцці і творчасці І. Чыгрынава. Апавяданне «Дзівак з Ганчарнай вуліцы»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. «Дзівак з Ганчарнай вуліцы». Памяць мінулай вайны і лёс старога лесніка Дземідзёнка. Зварот да традыцыйных каштоўнасцей, гармонія чалавека з прыродай, з людзьмі, з самім сабой. Вобраз аўтара-апавядальніка | Выклікаць цікавасць да жыцця і творчасці І. Чыгрынава, пазнаёміць з фактамі, якія спрыялі развіццю яго таленту; стварыць умовы для фарміравання ў вучняў умення ўспрымаць разгорнутае маналагічнае маўленне, а таксама рабіць паметкі па яго ходу, высветліць, у якой меры сфарміраваны ў іх уменні са- | Смаль, Вал. М., Смаль Вяч. М. Вывучэнне творчасці Івана Чыгрынава // Беларуская мова і літаратура. — 2008. — № 4. — С. 20<br>**Дамашняе заданне.**<br>І. Падрыхтаваць адказы на пытанні:<br>1. Да якога пакалення належыць І. Чыгрынаў? |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | мастойнага аналізу апавядання па прапанаванай памятцы-алгарытме; садзейнічаць выхаванню чытацкай асобы вучняў | 2. Што спрыяла развіццю таленту І. Чыгрынава?<br>3. Якая тэма з'яўляецца вядучай у яго творчасці?<br>ІІ. Прачытаць апавяданне І. Чыгрынава «У ціхім тумане» |
| 21 | **Новыя падыходы да асэнсавання тэмы вайны ў апавяданні «У ціхім тумане»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>«У ціхім тумане». Новыя падыходы да асэнсавання тэмы вайны. Узаемаадносіны былых ахвяр і здраднікаў Радзімы. Праблема віны і даравання. Вобразы Рэйдзіхі і Ганны. Гуманістычны пафас апавядання | Стварыць умовы для раскрыцця новых падыходаў да асэнсавання тэмы вайны, дапамагчы прааналізаваць узаемаадносіны былых ахвяр і здраднікаў Радзімы; засяродзіць увагу на гуманістычным пафасе апавядання; садзейнічаць выхаванню ў вучняў асноўных каштоўнасных арыенціраў | **Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць пераказ апавядання І. Чыгрынава «У ціхім тумане» |
| **Іван Навуменка (2 гадзіны)** | | | |
| 22 | **Звесткі аб жыцці і творчасці І. Навуменкі. Паказ лёсу моладзі ў гады вайны з фашызмам у апавяданні «Сямнаццатай вясной»** | Пашырыць уяўленне пра жыццё і творчасць І. Навуменкі, стварыць зместавыя і арганізацыйныя ўмовы для зацікаўлення падлеткаў апавяданнямі «Сямнаццатай вясной», «Хлопцы самай вялікай | Марціновіч, А. З вышыні пражытага : штрыхі да творчага партрэта І. Навуменкі // Роднае слова. — 2000. — № 2. — С. 4—8 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | *Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. «Сямнаццатай вясной». Паказ лёсу моладзі ў гады вайны з фашызмам. Раскрыццё ў творы характараў Цімоха, Стасі і іншых герояў.<br>Эмацыянальнасць зачыну апавядання, лірызм аповеду. Сімвалічнасць вобраза бэзу | вайны»; садзейнічаць развіццю ў школьнікаў уменняў працаваць у групах, рабіць характарыстыку асноўных герояў апавяданняў, даваць сваю ацэнку; стварыць умовы для выхавання ў вучняў здольнасці да суперажывання | **Дамашняе заданне.**<br>1. Падрыхтаваць паведамленне на тэму «Юнакі-патрыёты ў апавяданні І. Навуменкі "Сямнаццатай вясной"».<br>2. Прачытаць апавяданне «Хлопцы самай вялікай вайны» |
| 23 | **Шматгранны партрэт пакалення ў апавяданні «Хлопцы самай вялікай вайны». Жорсткая праўда жыцця**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>«Хлопцы самай вялікай вайны». Жорсткая праўда жыцця. Адсутнасць у апавяданні элементаў рамантыкі. Унутраная самаацэнка юнакоў; жаночы, мацярынскі погляд на рэальнасці вайны. Шматгранны партрэт пакалення. Роля мастацкай дэталі ў творы | | Беларуская літаратура : дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі [і інш.] ; пад рэд. А. І. Бельскага, М. А. Тычыны. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць адказ на пытанне: «Што агульнага ў апавяданнях "Сямнаццатай вясной" і "Хлопцы самай вялікай вайны"?» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Рыгор Барадулін. Вершы: «Неруш», «Яна адна, зямля бацькоў», «Заспаная раніца мжыстая...», «Пакуль жывеш, развітайся з жыццём...», «Божа, паспагадай усім...» (2 гадзіны)** | | | |
| 24 | **Жыццёвы і творчы шлях Р. Барадуліна. Народнасць і самабытнасць паэзіі**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Жыццёвы і творчы шлях паэта. Народнасць і самабытнасць паэзіі Р. Барадуліна. Сувязь яго творчасці з традыцыямі фальклору, міфалогіі, класічнай літаратуры. Услаўленне роднага слова як духоўнай святыні | Дапамагчы вучням зразумець асноўныя заканамернасці жыццёвага і творчага шляху пісьменніка, усвядоміць сапраўдную сутнасць і вартасць яго лірыкі; стварыць умовы для развіцця мастацкага густу і ўмення аб'ектыўна ацэньваць лепшыя здабыткі нацыянальнай літаратуры; садзейнічаць узбагачэнню духоўнага свету вучняў | 1) Сабуць, А. Э. Творчасць Р. Барадуліна ў школьнай праграме // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 11. – С. 47.<br>2) Гніламёдаў, У. Ад даўніны да сучаснасці : нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. – Мінск, 2001<br>**Дамашняе заданне.**<br>1. Падрыхтаваць паведамленне на тэму «Жыццёвы і творчы шлях Р. Барадуліна».<br>2. Індывідуальныя заданні.<br>Падрыхтаваць выразнае чытанне вершаў: «Неруш», «Яна адна, зямля бацькоў», «Заспаная раніца мжыстая...», «Пакуль жывеш, развітайся з жыццём...», «Божа, паспагадай усім...» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 25 | **Патрыятычныя і маральна-этычныя матывы ў лірыцы Р. Барадуліна**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Свет Радзімы-Беларусі ў паэзіі Р. Барадуліна, выяўленне пачуцця любові да зямлі бацькоў. Асаблівасці паэтычнага майстэрства Р. Барадуліна: арыгінальная метафарычна-асацыятыўная вобразнасць, гукапіс, рытміка, рыфма ў яго творах. Шчырасць, даверлівасць пачуццяў у лірыцы кахання, тонкі псіхалагізм і экспрэсіўнасць у іх выяўленні | Стварыць зместавыя і арганізацыйныя ўмовы для развіцця ў вучняў пазнавальных здольнасцей; выявіць літаратурна-эстэтычныя схільнасці, садзейнічаць выхаванню асобы ўдумлівага, свядомага чытача, стварыць умовы для выхавання пачуцця патрыятызму | Беларуская літаратура : дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі [і інш.] ; пад рэд. А. І. Бельскага, М. А. Тычыны. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць вуснае выказванне на тэму «Свет Радзімы-Беларусі ў паэзіі Рыгора Барадуліна» |
| | **Генрых Бёль (2 гадзіны)** | | |
| 26 | **Звесткі аб жыцці і творчасці Г. Бёля**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. Знаёмства з раманам «Дом без гаспадара», асаблівасці кампазіцыі | Пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам нямецкага пісьменніка Г. Бёля, гісторыяй напісання рамана «Дом без гаспадара», яго праблематыкай і сюжэтам | Беларуская літаратура : дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі [і інш.] ; пад рэд. А. І. Бельскага, М. А. Тычыны. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009<br>**Дамашняе заданне.**<br>*I група.* Падрыхтаваць параўнальную характарыстыку сяброў – Марціна і Генрыха. Адказаць: як скла́ліся іх лёсы ў рамане? |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | *II група.* Вызначыць мастацкія прыёмы, якія выкарыстоўваюцца ў рамане. Даць характарыстыку асаблівасцей аўтарскага стылю Г. Бёля.<br>*III група.* Напісаць эпілог рамана, у якім расказаць пра далейшае жыццё яго герояў (пастарацца пры гэтым захаваць асаблівасці стылю Г. Бёля) |
| 27 | **Раман «Дом без гаспадара» — твор аб цяжкіх душэўных пакутах пасляваеннага пакалення Германіі** (ва ўрыўках)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Раман «Дом без гаспадара» — твор аб цяжкіх душэўных пакутах пасляваеннага пакалення Германіі. Лёс жанчын. Вобразы непераадоленага мінулага ў творы. Праблема бацькоў і дзяцей. Псіхалагізм у рамане (Марцін і Генрых). Вобраз мастака Альберта. Сэнс назвы рамана | Далучыць вучняў да свядомага ўспрымання падзей з жыцця пасляваеннай Германіі, апісаных Г. Бёлем; дапамагчы асэнсаваць прычыны цяжкіх душэўных пакут пасляваеннага пакалення Германіі, паспрыяць разуменню ідэйнага зместу аповесці, выклікаць цікавасць да твора | Лявонава, Е. А. Вывучэнне рамана Г. Бёля «Дом без гаспадара» ў XI класе // Беларуская мова і літаратура. — 2009. — № 6. — С. 19<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць адказ на пытанне 5 вучэбнага дапаможніка (с. 161) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Яўгенія Янішчыц. Вершы: «Чаму ніколі не баюся я...», «Не воблака, а проста аблачынка...», «Помню, помню праз гады...», «Любоў мая...» (2 гадзіны)** | | | |
| 28 | **Звесткі аб жыцці і творчасці Я. Янішчыц. Малая радзіма ў светлых колерах лірыкі**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці паэтэсы. Малая радзіма, казачная палеская прырода, вясковы і гарадскі побыт, пададзеныя ў светлых колерах у лірыцы. Спроба паяднаць традыцыйны верш і рытмізаваную прозу ў творах | Пашырыць уяўленне пра жыццё і творчасць Я. Янішчыц, стварыць зместавыя і арганізацыйныя ўмовы для зацікаўлення падлеткаў яе лірычнымі творамі; садзейнічаць развіццю ў вучняў уменняў працаваць у групах; стварыць умовы для развіцця мастацкага густу і ўменняў аб'ектыўна ацэньваць лепшыя здабыткі нацыянальнай літаратуры; выклікаць захапленне асобай Я. Янішчыц, яе высокай паэтычнай культурай і талентам | Бельскі, А. І. Паэзія Яўгеніі Янішчыц у школе // Беларуская мова і літаратура. – 2004. – № 3. – С. 38–46<br>**Дамашняе заданне.**<br>1. Падрыхтаваць выразнае чытанне аднаго з вершаў: «Чаму ніколі не баюся я...», «Не воблака, а проста аблачынка...», «Помню, помню праз гады...», «Любоў мая...».<br>2. Падрыхтавацца да літаратурнага дыктанта па тэме «Жыццёвы і творчы шлях Я. Янішчыц» |
| 29 | **Тэматычная палітра паэзіі Я. Янішчыц. Эвалюцыя пафасу ў творах**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Тэматычная палітра паэзіі Я. Янішчыц. Эвалюцыя пафасу ў творах: ад мажорнага, радаснага да сумнага, трывожнага | Выявіць тэматычнае багацце паэтычнай спадчыны Я. Янішчыц: пазнаёміцца з вершамі «Чаму ніколі не баюся я...», «Не воблака, а проста аблачынка...», «Помню, помню праз гады...», «Любоў мая...», вызначыць іх тэматыку, даць характарыстыку лірычнаму герою; выявіць літаратурна- | **Дамашняе заданне.**<br>Вывучыць на памяць верш (на выбар вучняў) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | эстэтычныя схільнасці, садзейнічаць выхаванню асобы ўдумлівага, свядомага чытача | |
| **Георгій Марчук (1 гадзіна)** | | | |
| 30 | **Звесткі аб жыцці і творчасці Г. Марчука. Навелы «Канон Богу», «Канон Базару», «Канон Гарыні», «Канон Маці»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. Захапляльнае падарожжа па радзіме пісьменніка, асэнсаванне жыцця палешукоў, іх традыцый. Жанрава-стылёвая спецыфіка твораў, іх спавядальнасць. Мудрасць разумення чалавечага шчасця і іншых духоўных каштоўнасцей | Пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам Г. Марчука, з фактамі, якія спрыялі развіццю яго таленту; стварыць зместавыя і арганізацыйныя ўмовы для зацікаўлення падлеткаў яго творчасцю, даць уяўленне пра жанрава-стылёвую спецыфіку твораў; стварыць умовы для развіцця навыкаў камунікатыўнага маўлення, развіваць уменні працаваць са зместам мастацкага твора, выбіраць патрэбнае, абагульняць, рабіць вывады, фарміраваць уласнае меркаванне; садзейнічаць выхаванню ў вучняў пачуцця патрыятызму і нацыянальнай самасвядомасці | Белая, А. І. Вывучэнне творчасці Г. Марчука ў школе // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 2. – С. 26<br>**Дамашняе заданне** (на выбар).<br>I. Сціслы пераказ адной з навел Г. Марчука.<br>II. Вуснае выказванне-разважанне па тэме «Мудрасць разумення чалавечага шчасця і іншых духоўных каштоўнасцей» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | **Аляксей Дудараў (2 гадзіны)** | | |
| 31 | **Звесткі аб жыцці і творчасці А. Дударава. Наватарскі падыход драматурга да ўвасаблення далёкага мінулага ў п'есе «Князь Вітаўт»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Кароткія звесткі аб жыцці і творчасці пісьменніка. «Князь Вітаўт». Наватарскі падыход драматурга да ўвасаблення далёкага мінулага. Жанравая адметнасць твора, асаблівасці кампазіцыі | Пазнаёміць з творчай біяграфіяй А. Дударава, узнавіць веды пра драматычныя жанры, падрыхтаваць клас інтэлектуальна і эмацыянальна да ўспрымання п'есы; стварыць умовы для фарміравання асобасных адносін да прачытанага | 1) Завадская, І. «Як цяжка князем быць – і верыць Богу» : пра спектакль «Князь Вітаўт» // Роднае слова. – 2001. – № 8. – С. 98–99.<br>2) Ратабыльская, Т. А. «Спыніся, імгненне...» : старонкі тэатральнага жыцця Беларусі 1990-х гг. / Т. А. Ратабыльская. – Мінск, 2000<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтавацца да літаратурнага дыктанта па тэме «Жыццё і творчасць А. Дударава» |
| 32 | **Кампазіцыйная і жанравая адметнасць п'есы «Князь Вітаўт». Сістэма вобразаў**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Вітаўт і Ягайла як вобразы-тыпы. Маральна-этычнае завастрэнне канфлікту. Ахвярнасць, вернасць (пакаёўка Алёна) і здрада, халодны разлік, угодлівасць (стражнік Люцень). Праблема асабістага шчасця ў п'есе. Сцвярджэнне ў творы галоўных каштоўнасцей на зямлі – любові, еднасці, згоды і міру | Стварыць умовы для выяўлення аўтарскай пазіцыі ў творы, асноўных сюжэтных ліній; садзейнічаць развіццю ў вучняў умення даваць характарыстыку галоўным героям п'есы, тлумачыць учынкі і разважанні герояў, вызначаць іх узаемаадносіны; выяўляць адносіны вучняў да п'есы і ўзнятых у ёй праблем; садзейнічаць выхаванню павагі да роднага слова, цікавасці да твора | **Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць характарыстыку галоўнага героя п'есы |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Беларуская літаратура на сучасным этапе (з сярэдзіны 1980-х гадоў) (19 гадзін)** | | | |
| **Паэзія (*2–3 аўтары на выбар настаўніка*) (7 гадзін)** | | | |
| 33 | **Беларуская літаратура на сучасным этапе** (агляд)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Літаратурны працэс у Беларусі на сучасным этапе. Прыход у літаратуру новых пакаленняў творчай моладзі. Знаёмства з літаратурнымі часопісамі і публікацыямі ў іх твораў сучасных аўтараў («Полымя», «Маладосць» і інш.). Утварэнне грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі» | Дапамагчы вучням асэнсаваць літаратурны працэс у Беларусі на сучасным этапе, паглыбіцца ў свет паэтычных твораў, пазнаёміць старшакласнікаў з новым пакаленнем творчай моладзі, літаратурнымі часопісамі і публікацыямі ў іх твораў сучасных аўтараў; раскрыць тэматычнае багацце і жанравую разнастайнасць сучаснай паэзіі (на прыкладзе творчасці двух-трох аўтараў); садзейнічаць развіццю мастацкага густу, слоўнікавага запасу, вучыць чытаць, ствараць умовы для духоўнага ўзбагачэння, фарміравання самасвядомасці і маральнага самавызначэння вучняў | 1) Бельскі, А. І. Паэзія Яўгеніі Янішчыц у школе // Беларуская мова і літаратура. – 2004. – № 3. – С. 38–46.<br>2) Гіламёдаў, У. Ад даўніны да сучаснасці : нарыс пра беларускую паэзію / У. Гіламёдаў. – Мінск, 2001<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць тэзісны план крытычнага артыкула «Паэзія» (вучэбны дапаможнік, с. 193–202) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 34 | **Паглыбленне агульначалавечага, маральна-філасофскага, гуманістычнага зместу лірыкі** (агляд)<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Літаратурны працэс у Беларусі на сучасным этапе. Утварэнне грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі». Паглыбленне агульначалавечага, маральна-філасофскага, гуманістычнага зместу лірыкі, яе грамадзянска-публіцыстычнага і інтымна-псіхалагічнага пачаткаў у творчасці М. Танка, П. Панчанкі, В. Зуёнка, С. Грахоўскага, А. Вярцінскага і інш. Чарнобыль у творах Я. Сіпакова, М. Мятліцкага, А. Зэкава, М. Башлакова. Пошукі і наватарства ў галіне паэтычнай формы (М. Танк, А. Разанаў, Р. Баравікова, М. Мятліцкі). Разнастайнасць творчых індывідуальнасцей у сучаснай паэзіі: М. Башлакоў, К. Жук, М. Шабовіч, К. Цыбульскі, Л. Рублеўская, В. Шніп, П. Вераб'ёў, Т. Трафімава, Н. Шклярава і інш. | | Бельскі, А. І. Паэзія // Беларуская літаратура XX стагоддзя : у 4 т. – Мінск, 1999–2003. – Т. 4. Кн. 2 : 1986–2000. – С. 39–87<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленне «Разнастайнасць і тэматычнае багацце сучаснай паэзіі» |
| 35 | **Патрыятычнае гучанне лірыкі Я. Сіпакова**[2] | | **Дамашняе заданне.**<br>Вывучыць на памяць верш з сучаснай беларускай паэзіі (на выбар вучня) |

[2] У адпаведнасці з праграмай настаўнік мае права сам выбраць аўтара. Мэты і задачы настаўнік вызначае ў залежнасці ад зместу таго ці іншага ўрока і тэмы, якая разглядаецца (аналагічна пры вывучэнні сучаснай прозы і драматургіі).

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | *Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Патрыятычнае гучанне, спавядальнасць, разнастайнасць вобразаў як рысы індывідуальнага стылю пісьменніка. Пейзажная лірыка Я. Сіпакова. Аўтабіяграфізм твораў на ваенную тэматыку. Вершы на гістарычныя тэмы, спалучанасць у іх эпічнай і лірычнай плыні | | |
| 36 | **Я. Сіпакоў – майстар баладнага жанру**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Я. Сіпакоў – майстар баладнага жанру. Лёс славянскіх народаў, адлюстраванне рыс іх характараў у баладах. Лірычная (аповесці «Крыло цішыні», «Усе мы з хат», кніга апавяданняў «Пяць струн»), філасофская, прытчавая (зборнік «Тыя, хто ідуць») плыні прозы Я. Сіпакова | | **Дамашняе заданне.**<br>Зрабіць паведамленне на адну з прапанаваных тэм:<br>1. Пейзажная лірыка Я. Сіпакова.<br>2. Аўтабіяграфізм твораў на ваенную тэматыку.<br>3. Вершы на гістарычныя тэмы, спалучанасць у іх эпічнай і лірычнай плыні.<br>4. Я. Сіпакаў – майстар баладнага жанру |
| 37 | **А. Вярцінскі – прадстаўнік філасофска-інтэлектуальнай плыні ў сучаснай беларускай паэзіі**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>А. Вярцінскі – прадстаўнік філасофска-інтэлектуальнай плыні ў сучаснай беларускай паэзіі. Сцвярджэнне чалавечай высакароднасці і дабрыні | | **Дамашняе заданне.**<br>Зрабіць паведамленне на тэму «А. Вярцінскі – прадстаўнік філасофска-інтэлектуальнай плыні ў сучаснай беларускай паэзіі» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 38 | **А. Вярцінскі. Паэма «Песня пра хлеб». Роля пейзажных малюнкаў**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Паэма «Песня пра хлеб». Успаміны паэта пра сваё маленства, пра самы дарагі падарунак зямлі — хлеб. Глыбокая любоў да роднай зямлі. Роля пейзажных малюнкаў у паэме | | **Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць 3—4 пытанні класу па творчасці А. Вярцінскага |
| 39 | **Тэма Бацькаўшчыны ў лірыцы А. Разанава**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Філасофска-інтэлектуальны кірунак творчасці: суадносіны агульначалавечага (быційнага) і нацыянальна-гістарычнага (асабістага). Тэма Бацькаўшчыны ў лірыцы паэта. Трагізм светаадчування мастака ў творах на гістарычную тэматыку («Радзіма...», «Рагнеда», «Стары горад», «Парог»). Традыцыі і наватарства: адметнасць жанрава-стылёвых форм, стыль пісьма паэта. Асацыятыўная вобразнасць. Роля А. Разанава ў развіцці традыцый беларускай філасофскай паэзіі | | **Дамашняе заданне.**<br>Зрабіць паведамленне на адну з прапанаваных тэм:<br>1. Тэма Бацькаўшчыны ў лірыцы паэта.<br>2. Трагізм светаадчування мастака ў творах на гістарычную тэматыку.<br>3. Роля А. Разанава ў развіцці традыцый беларускай філасофскай паэзіі |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | **Урок развіцця маўлення (2 гадзіны)** | | |
| 40<br>41 | ***Кантрольнае сачыненне па адной з прапанаваных тэм***: «Асноўныя матывы творчасці Я. Сіпакова»; «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць...» (па творах А. Вярцінскага); «Тэма Радзімы ў сучаснай паэзіі»; «Традыцыі і наватарства ў паэзіі А. Разанава» і інш. | | |
| | **Проза (*2—3 аўтары на выбар настаўніка*) (6 гадзін)** | | |
| 42 | **Асноўныя праблематыка сучаснай прозы**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Сацыяльныя і маральна-філасофскія праблемы ў сучаснай прозе: В. Казько. «Хроніка дзетдомаўскага саду», В. Карамазаў. «Бежанцы», А. Савіцкі. «Пісьмо ў рай», А. Жук. «Праклятая любоў», А. Федарэнка. «Вёска», А. Казлоў. «Незламаная свечка» (на выбар). Чарнобыльская тэма ў сучаснай прозе: Б. Сачанка. «Родны кут», «Еўка», І. Шамякін. «Злая зорка», Л. Левановіч. «Палыновы вецер». Лёс народа Заходняй Беларусі ў раманах сучасных пісьменнікаў: В. Адамчык. «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», Г. Далідовіч. «Заходнікі» (твор на выбар). Тэма вайны ў сучаснай | Стварыць умовы для раскрыцця тэматычнага багацця і жанравай разнастайнасці сучаснай прозы: повязь мінулага і сучаснага, Вялікая Айчынная вайна ў творах пісьменнікаў, сацыяльныя і маральна-філасофскія праблемы, трагедыя сучаснай вёскі; садзейнічаць развіццю ўмення даследаваць, самастойна здабываць веды з розных крыніц і выкарыстоўваць іх ва ўласнай дзейнасці; стварыць умовы для духоўнага станаўлення, фарміравання самасвядомасці і маральнага самавызначэння вучняў | 1) Бельскі, А. І. Паэзія Яўгеніі Янішчыц у школе // Беларуская мова і літаратура. – 2004. – № 3. – С. 38–46.<br>2) Бельскі, А. І. Сучасная беларуская проза // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 4. – С. 20<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленне «Разнастайнасць і тэматычнае багацце сучаснай прозы» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | беларускай прозе: В. Быкаў. «У тумане», І. Чыгрынаў. «Вяртанне да віны», А. Адамовіч. «Нямко», Г. Марчук. «Крык на хутары». Тэма гістарычнага мінулага ў сучаснай прозе: Л. Дайнека, К. Тарасаў. Адлюстраванне падзей савецкага мінулага: В. Быкаў. «Сцюжа», І. Навуменка. «Вір», Я. Сіпакоў. «Кулак» | | |
| 43<br>44 | **І. Пташнікаў як адзін з таленавітых прадстаўнікоў філалагічнага пакалення**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Прырода, малая радзіма, вайна і мір — вызначальныя тэмы творчасці пісьменніка. Трагізм як адметная рыса аповесці «Тартак». Гераічны пафас аповесці «Найдорф». Вобразы людзей-працаўнікоў, улюбёных у родныя мясціны, патрыётаў Андрэя Вялічкі (раман «Мсціжы») і Алімпіяды Падаляк (раман «Алімпіяда»). Жанравая разнастайнасць, эмацыянальная напружанасць, дынамізм апавяданняў «Француханкі», «Тры пуды жыта», «Пагоня». Маляўнічасць мовы, псіхалагізм, філасафічнасць як адметныя рысы індывідуальнага стылю мастака слова | | 1) Грыцаль, Т. М. Беларуская літаратура ў школе : вывучэнне сучаснай прозы ў старэйшых класах / Т. М. Грыцаль. — Мінск, 2004.<br>2) Кандрацьева, М. Г. Гістарычнае мінулае ў творах сучаснай беларускай прозы // Беларуская мова і літаратура. — 2006. — № 7. — С. 60<br>**Дамашняе заданне.**<br>Падрыхтаваць паведамленне на адну з прапанаваных тэм[3]:<br>1. Сацыяльныя і маральна-філасофская праблемы ў сучаснай прозе.<br>2. Чарнобыльская тэма ў сучаснай прозе.<br>3. Лёс народа Заходняй Беларусі ў раманах сучасных пісьменнікаў. |

[3] Дадзенае дамашняе заданне прапануецца на кожным уроку вывучэння тэмы з улікам матэрыялу ўрока.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | 4. Тэма вайны ў сучаснай беларускай прозе.<br>5. Тэма гістарычнага мінулага ў творах.<br>6. Адлюстраванне падзей савецкага мінулага ў сучаснай прозе |
| 45<br>46 | **В. Казько — майстар інтэлектуальнай, філасофскай прозы**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Асуджэнне вайны праз балючую памяць, драматычны лёс Колькі Лецечкі і яго пакалення (аповесць «Суд у Слабадзе»). Раман «Неруш» у шэрагу іншых твораў пра парушэнне гармоніі зямнога жыцця («Белы параход» Ч. Айтматава, «Царрыба» В. Астаф'ева і інш.). Рэальныя (Мацвей Роўда, Шахрай, дзед Дзям'ян, Нене) і міфалагічныя (жалезны чалавек, Галоска-галасніца) вобразы ў творы | | |
| 47 | **В. Карамазаў — адзін з вядучых сучасных празаікаў**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Псіхалагізм апавяданняў з першай кнігі пісьменніка «Падранак». Горад і вёска, бацькі і дзеці ў аповесці «Бярозавыя венікі». | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | Вобраз лесу, ахоўнікі яго таямніц у рамане «Пушча». Твор-даследаванне пра В. К. Бялыніцкага-Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Майстэрства пісьменніка ў асвятленні праблем сучаснасці | | |
| **Драматургія (*1–2 аўтары на выбар настаўніка*) (6 гадзін)** | | | |
| 48 | **Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай драматургіі другой паловы 80–90-х гадоў**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай драматургіі другой паловы 80–90-х гадоў. Традыцыі драматургіі К. Крапівы і А. Макаёнка, творчае выкарыстанне гэтых традыцый маладзейшымі пісьменнікамі. Узмацненне цікавасці да гістарычнага мінулага: А. Петрашкевіч. «Прарок для Айчыны», «Меч Рагвалода», І. Чыгрынаў. «Звон не малітва», Р. Баравікова. «Барбара Радзівіл» і інш. Трагічны лёс беларускай вёскі і сялянства ў п'есе У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». Сатырычная камедыя М. Матукоўскага «Мудрамер», яе маральна-этычная праблематыка. Новая хваля ў беларускай драматургіі | Пазнаёміць старшакласнікаў з асноўнымі тэндэнцыямі ў развіцці беларускай драматургіі другой паловы 80–90-х гадоў, засяродзіць увагу вучняў на традыцыях драматургіі К. Крапівы, А. Макаёнка, стварыць умовы для раскрыцця тэматычнага багацця і жанравай разнастайнасці сучаснай драматургіі: гістарычнае мінулае, Вялікая Айчынная вайна, маральна-філасофская праблематыка; садзейнічаць развіццю ўмення вучняў даследаваць, самастойна здабываць веды з розных крыніц і выкарыстоўваць іх ва ўласнай дзейнасці; стварыць умовы для духоўнага станаўлення, фарміравання самасвядомасці | 1) Бельскі, А. І. Паэзія Яўгеніі Янішчыц у школе // Беларуская мова і літаратура. – 2004. – № 3. – С. 38–46.<br>2) Васючэнка, П. Сучасная беларуская драматургія // Беларуская мова і літаратура. – 2006. – № 7. – С. 60<br>**Дамашняе заданне.**<br>І. Падрыхтаваць паведамленне на адну з прапанаваных тэм:<br>1. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай драматургіі другой паловы 80–90-х гадоў.<br>2. Разнастайнасць і тэматычнае багацце сучаснай драматургіі.<br>3. Тэма гістарычнага мінулага ў сучаснай драматургіі.<br>4. Гістарычныя падзеі 30-х гг. ХХ стагоддзя ў п'есе У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | і маральнага самавызначэння вучняў | II. Падрыхтаваць паведамленне аб прагледжаным спектаклі па п'есе сучаснага драматурга |
| 49<br>50 | **Рэальныя гістарычныя асобы ў п'есе А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца» або «Прарок для Айчыны»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Канфлікт у творах. Рэальныя гістарычныя асобы ў творах. Мастацкая ўмоўнасць у п'есах. Мінулае і будучыня ў творах. Цэнтральны герой п'ес Францыск Скарына як выбітная постаць XV ст. Маральныя праблемы і іх вырашэнне. Мастацкая ўмоўнасць у творах. Майстэрства Петрашкевіча-драматурга | | |
| 51<br>52 | **Вастрыня канфлікту ў драме У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». Спроба рымейка «Новыя прыгоды Несцеркі»**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>Раскаванасць мастацкага мыслення (В. Раеўскі), вастрыня канфлікту ў драме «Страсці па Аўдзею». Гістарычныя падзеі 30-х гг. XX ст. у п'есе. Трактоўка вобраза галоўнага героя. Спроба рымейка «Новыя прыгоды Несцеркі». «Фалькларызм» твора | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 53 | **П'есы С. Кавалёва, іх наватарства. Гістарычная аснова і мастацкая ўмоўнасць у іх**<br>*Асноўныя пытанні для вывучэння:*<br>П'есы драматурга для дзяцей («Драўляны Рыцар», «Дарога на Віфлеем»), іх наватарства. П'есы-рымейкі «Звар'яцелы Альберт, або Прароцтвы шляхціца Завальні», «Трышчан ды Іжота», «Саламея, або У пошуках шчаслівага месца», «Стомлены д'ябал». Гістарычная аснова і мастацкая ўмоўнасць у іх | | |

# Рэкамендаваная вучэбна-метадычная літаратура

## Беларуская мова

1. Красней, В. П. Беларуская мова : поўны школьны курс : тэорыя / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль. — Мінск : Аверсэв, 2011, 2012.

2. Валочка, Г. М. Зборнік матэрыялаў для выпускнога экзамену па вучэбным прадмеце «Беларуская мова» за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі. Тэксты для пераказаў / Г. М. Валочка [і інш.]. — Мінск : Аверсэв, 2012.

3. Бадзевіч, З. І. Пішам па-беларуску. Даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі з каментарыямі / З. І. Бадзевіч [і інш.]. — Мінск : Аверсэв, 2010, 2011.

## Слоўнікі

1. Бардовіч, А. М. Школьны марфемны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч [і інш.]. — Мінск : Аверсэв, 2004, 2006.

2. Бардовіч, А. М. Школьны словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч [і інш.]. — Мінск : Аверсэв, 2006.

3. Кандраценя, І. У. Беларускі арфаграфічны слоўнік для школьнікаў / І. У. Кандраценя [і інш.] ; пад рэд. А. А. Лукашанца. — Мінск : Аверсэв, 2010, 2011.

4. Бандарэнка, Н. Д. Разам, асобна, праз злучок : даведнік / Н. Д. Бандарэнка [і інш.] ; пад рэд. А. А. Лукашанца. — Мінск : Аверсэв, 2011.

## Беларуская літаратура

1. Грамадчанка, Т. К. Школьныя творы : кароткі змест і аналіз / Т. К. Грамадчанка. — Мінск : Аверсэв, 2010.

2. Бельскі, А. І. Сучасная літаратура Беларусі / А. І. Бельскі. — Мінск : Аверсэв, 2000.

3. Ішчанка, Г. М. Вывучэнне творчасці пісьменніка: У. Караткевіч у школе / Г. М. Ішчанка. — Мінск : Аверсэв, 2005.

4. Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці пісьменніка: Іван Мележ у школе / В. Я. Ляшук. — Мінск : Аверсэв, 2006.

5. Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Янкі Брыля ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск : Аверсэв, 2004.

6. Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Максіма Багдановіча ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск : Аверсэв, 2008.

7. Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Максіма Танка ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск : Аверсэв, 2009.

## Змест

# Выдавецтва «Аверсэв»

## прапануе наступныя выданні:




### Беларуская мова. Поўны школьны курс. Тэорыя

***В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль***

**5-е выданне**

У дапаможніку сістэматызаваны тэарэтычны матэрыял па ўсіх раздзелах беларускай мовы за курс базавай і сярэдняй школы. Фармулёўкі азначэнняў мовазнаўчых паняццяў, фактаў і правілаў у кнізе аналагічныя тым, што даюцца ў школьных падручніках.

Прызначаецца вучням старшых класаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі для самастойнай працы па вывучэнні мовы, павышэнні пісьменнасці і маўленчай культуры.

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*




### Разам, асобна, праз злучок. Даведнік

***Н. Д. Бандарэнка, І. Л. Капылоў, Т. М. Маракуліна***

**Пад рэдакцыяй *А. А. Лукашанца***

У слоўнік-даведнік уключаны найбольш пашыраныя ў школьнай практыцы і найбольш складаныя для напісання словы: агульнаўжывальная лексіка, навукова-тэхнічныя тэрміны, складанаскарочаныя словы, абрэвіятуры, запазычанні, а таксама неалагізмы, якія актыўна ўваходзяць у беларускую мову ў апошні час.

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

**У кнігарнях рэспублікі!**

